

XX гадоў «Антракту» ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Найлепшыя кнігі ➔4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3174) Год LXII Беласток, 12 сакавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





фота: wspolczesna.pl

## Беларуская літаратура па-польску

**Тры беларускія кніжкі ў польскім перакладзе неўзабаве з'явяцца ў кнігарнях. Размова ідзе пра прозу Барыса Пятровіча і Алены Брава, а таксама паэзію Надзеі Артымовіч. Перакладам на польскую мову заняліся такія аўтарытэты як Міра Лукша, Юры Плютовіч і Марцін Рэмбач. Усе тры кніжкі будуць надрукаваны Фондам „Суседзі", які плануе прамоцыю ўсіх трох яшчэ ў першым квартале гэтага года. Аб гэтым „Ніве" расказаў старшыня фонду Андрэй Каліноўскі.**

**— Дзякуючы вам некаторыя напэўна самі адкрыюць для сябе творчасць беларускіх пісьменнікаў. А вы, як выдавецтва на што разлічваеце?**

— Мы лічым, што літаратура паўплывае на гэта, што культурная блізкасць Польшчы і Беларусі будзе яшчэ больш зразумелая і яскравая.

**— Але таксама беларускага Падляшша, паколькі тлумачыце таксама паэзію Надзеі Артымовіч.**

— Таму мы хочам перакладаць універсальныя кніжкі. Я веру, што менавіта тыя ўніверсальныя кніжкі ўдалося нам знайсці і што беларускую літаратуру будуць чытаць у Познані, Вроцлаве ці ў Кракаве. Калі б я на гэта не спадзяваўся, не падняўся б перакладаў і выдання. Тыя асобы, якія памагалі мне выбраць творы, упэўнілі мяне яшчэ, што гэта літаратура па-над Падляшша. Бывае так, што яна можа быць заўважанай у Польшчы, а калі будзе, могуць знайсціся асобы, якія схочуць перакласці яе яшчэ на іншыя мовы. Мы будзем намагацца, каб так было.

**— А чаму менавіта гэтыя аўтары і гэтыя кніжкі?**

— Напэўна мы хацелі, каб кніжка ўзбуджала цікавасць, мела нейкую таямніцу... У кніжцы Барыса Пятровіча ўсё гэта можам знайсці. Зусім іншай справай з'яўляюцца вершы. Але беручы пад увагу вялікасць асобы, якая гэтыя вершы пісала, палічылі, што варта паказаць іх польскамоўнаму чытачу. Вядома, паэзію чытаюць пэўныя кругі, але калі хтосьці знойдзе нешта вартаснага, падзеліцца гэтым з іншымі. Прыклад Міхала Ксёнжка, які быў яшчэ мала вядомы, калі мы вырашылі выдаць яму першы зборнік. Аказалася, што Міхала пачалі чытаць розныя групы і рэкамендавалі іншым, што варта. Таму прабуем далей. Тым больш, што для нас Надзея Артымовіч з'яўляецца самай важнай беларускай паэтэсай.

**— І наватарскай.**

— Яе паэзія адметная. На яе ўсе звярнулі ўвагі. Яе паэтычны стыль быў так інтрыгуючы, іншы... варта ўслухацца ў паэтычную думку Надзеі Артымовіч. У сваю чаргу кніга Барыса Пятровіча, сам загаловак „На пачатку была цёмнасць" інтрыгуючы таксама. Пасля прачытання гэтай кніжкі кожны сам павінен задумацца, што ёсць цяпер. І Алена Брава са сваімі складанымі героямі, якія пакутуюць ад хлусні і недасканаласці сучаснага жыцця, якія імкнуцца да адвечных каштоўнасцей, таксама вартая ўвагі. Увесь час перакладчыкі працуюць над кніжкамі. Чакаем ідэалаў і прамоцыі ў час красавіцкіх „Кніжных таргоў" у Беластоку.

**— Былі нейкія цяжкасці, каб знайсці перакладчыкаў гэтых трох кніг?**

— Паэзію перакладае Марцін Рэмбач, прозу Міра Лукша і Юрка Плютовіч. Я ведаю, што перакладчыкаў знайшлі мы добрых. Чакайма таксама добрых кніжак ужо ў красавіку.

**— Усе тры кніжкі будуць мець сваю прамоцыю на „Кніжных таргах" тут, у Беластоку — гэта ўжо пэўнае?**

— Дзве напэўна. Гэта проза Барыся Пятровіча і Алены Брава. Адносна зборніка вершаў Надзеі Артымовіч яшчэ не вырашылі. Вядома, прамоцыя адбудзецца ці гэта на таргах, ці ў беластоцкім асяроддзі. Напэўна будзе шумная. Аднак канкрэтна гэтага яшчэ мы не вырашылі.

**— Ці ваш Фонд „Суседзі" спыніцца на гэтых трох беларускіх кнігах, ці можа ў будучыні таксама плануеце перакладаць і выдаваць кнігі беларускіх аўтараў?**

— Напэўна будзем сачыць за Літаратурнай прэміяй імя Ежы Гедройца, якой штогод узнагароджваюцца ў Мінску беларускія аўтары. Калі заўважым нешта цікавае, а заўсёды нешта цікавае з'яўляецца, будзем размаўляць з аўтарамі. Разлічваем, што ўдасца нам кожны год выдаць прынамсі дзве кніжкі беларускіх аўтараў.

❖Уршуля ШУБЗДА

## ВЕРШЫ

*Надзеі Артымовіч*

* * *

мая ўчарашняя сонная прастора
стаіць перад люстрам

заўтра я зачыню тваімі пальцамі
адплываючы лагодны свет

і знікне мой ціхі след
з апошняй музыкай ...

* * *

я падаю ў бездань
я сплю
я сню

я сню
твой ріапо верш
твой ріапо верш

згару ў сне
і ўваскрэсну
ў белым чыстым полі

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРАФЕСАРА АЛЕГА ЛАТЫШОНКА ДА КІРАЎНІКА TVP S. A. ЯЦКА КУРСКАГА

Беласток, 2017.02.27

**Доктар габілітаваны Алег Латышонак,**
**прафесар Універсітэта ў Беластоку**
**Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства**

**Шаноўны спадар Яцэк Курскі**
**Старшыня праўлення Telewizji Polskiej S. A.**

**Адкрыты ліст**

Паважаны спадар старшыня! У галоўным выпуску навінаў „Wiadomości" 25 лютага 2017 г., з'явіўся матэрыял, прысвечаны „выклятым жаўнерам". На самой справе гаворка ішла пра абарону добрага імя капітана Рамуальда Райса псеўданім „Буры". Адзінай асобай, якой было прадстаўлена права голасу, быў „гісторык" Міхал Астапюк. Ён аўтарытэтна заявіў, што мэтай капітана Рамуальда Райса „Бурага" была ліквідацыя асоб, якія супрацоўнічалі з рэжымам, а таксама спаленне вясковых будынкаў, хоць сярод тых, хто загінуў, і былі выпадковыя людзі. У сувязі з вышэйсказаным хацеў бы я прыгадаць, што па загадзе капітана Рамуальда Райса „Бурага" ў студзені і лютым 1946 года загінулі 82 нявінныя асобы, у тым ліку старыя, жанчыны і дзеці. Некаторыя з гэтых людзей былі спалены жыўцом у Залешанах, не выпадкова, а адмыслова закрытыя ў будынку, які быў падпалены, а ў тых, хто спрабаваў уцячы — стралялі. У Занях задавалі пытанне, „беларус ці каталік?", праваслаўных забівалі на месцы. У мясцовасці Пухалы-Старэ былі бязлітасна забіты беларускія вазакі, якія перад гэтым былі змушаныя везці аддзел „Бурага". У Шпаках застрэлілі дзяўчыну, якая адчайна абаранялася ад гвалту, а другую згвалтавалі. Здзяйсненне любога з гэтых злачынстваў не адмаўляе Варшаўскі акруговы вайсковы суд, які ў 1995 г. адмяніў смяротны прысуд Рамуальду Райсу, абгрунтаваўшы гэта тым, што ён „змагаўся за незалежнае існаванне польскай дзяржавы" і аддаючы загады па знішчэнню беларускіх вёсак, дзейнічаў ва ўмовах „крайняй неабходнасці". Следства Інстытута нацыянальнай памяці ў гэтай справе прывяло ў 2005 г. да высновы пракурора, што „забойства вазакоў і пацыфікацыя вёсак у студзені-лютым 1946 г. нельга атаясамліваць з барацьбой за незалежнае існаванне дзяржавы, бо яны маюць прыкметы генацыду". Дададзім, што ў знішчаных вёсках раскідваліся ўлёткі, якія заклікалі беларусаў пакінуць тэрыторыю Польшчы. Такім чынам, тут мы маем справу не з ліквідацыяй асоб, якія супрацоўнічалі з рэжымам, а з выгнаннем беларускага насельніцтва краіны, менавіта з этнічнай чысткай. Польскае тэлебачанне мае ўласныя фільмы, якія прадстаўляюць дзейнасць капітана Р. Райса „Бурага": Войцеха Варатыньскага „Бог заўсёды даруе" і Агнешкі Арнольд „Герой", а таксама Юрыя Каліны „Сярожа", прысвечаны Сяргею Нічыпаруку, які хоць і страціў у Залешанах частку сям'і, аднак, заклікае да прымірэння. Фільм В. Варатыньскага, напэўна, найдаўжэй праляжаў на паліцах ІІІ РП. Фільм Ю. Каліны, узнагароджаны ў апошнім конкурсе Таварыства польскіх журналістаў, паказаў толькі Белсат. Не дачакаўся паказу нават на TVP 3 Białystok. Я спадзяюся, што Польскае тэлебачанне ў імя аб'ектыўнасці і гістарычнай праўды, нарэшце адважыцца на паказ гэтых фільмаў, замест таго, каб змагацца за добрае імя вінаватых у масавых забойствах нявінных беларускіх сялян.

**Прафесар Алег Латышонак** — абураны матэрыялам пра „Бурага" на польскім дзяржаўным тэлебачанні. Вядомы беларускі гісторык напісаў адкрыты ліст на імя старшыні Управы Польскага тэлебачання (TVP) Яцка Курскага з нагоды матэрыялу, які быў паказаны ў галоўным выданні „Навінаў" 25 лютага, і быў прысвечаны так званым „выклятым жаўнерам". Выступоўца — Міхал Астапюк — сцвярджаў, што мэтай Рамуальда Райса „Бурага" было знішчэнне выключна асоб, якія супрацоўнічалі з рэжымам, і спаленне вясковых будынкаў, хоць сярод тых, якія загінулі, аказаліся і выпадковыя асобы. Прафесар Латышонак нагадвае, што атрад „Бурага" забіў 82 чалавекі, у тым ліку старых, жанчын і дзяцей з беларускіх вёсак, гісторык выкарыстоўвае акрэсленне „этнічная чыстка".

**(Даведка і пераклад з польскай мовы racyja.com)**



9 770546 196000

# Духоўны цэнтр

Гэтыя размовы я памятаю з дзяцінства ад сваіх дзядоў. Людзі яны, як і большасць прадстаўнікоў гэтага пакалення, былі нешматслоўныя. Трапацца дзеля плявузгання не любілі. І нават калі вельмі запытаеш, пра сябе расказвалі мала і сціпла. Пры гэтым добра ўзважваючы і прадумваючы кожнае слова.

Адзін толькі прыклад. Як я ішоў у войска, сярод безлічы парадаў падвыпіўшых гасцей на маіх праводзінах пра тое, як там лепш сябе паводзіць і як там лепш прыстасавацца, ад дзеда я пачуў толькі адну фразу:

— Ты там, галоўнае, пастарайся па людзях не страляць.

У гэтай фразе было ўсё. І цяжар пражытага, і жыццёвы досвед, і грунтоўная абдуманасць таго, што раіш.

Але мы, дзеці, любілі падслухаць пра што дзяды гамоняць за чаркай. У тыя часы, калі дарослыя сядалі з бутэлькай за стол, у нас на Ашмяншчыне дзяцей туды не дапускалі. З розных прычын. Няма чаго дзецям узірацца на тое як п'юць гарэлку. Ды і пры гарэлцы дарослыя могуць і брыдка выславіцца, ды і сказаць нешта лішняе, адваротнае таму, што вучаць у савецкай школе. А такія рэчы трэба тлумачыць па цвярозаму і не за сталом. Ды і не прыйшоў быў яшчэ час пра ўсё расказаць.

І ўсё ж мы многае пачулі. Вельмі моцна мяне ўражвалі размовы пра пачатак вайны, калі ў 1939 годзе і нашы дзяды, беларусы, апынуліся ў польскім войску, якое не вытрымала націску з двух бакоў адразу. І асабліва пра савецкі палон, калі нейкі камісар сартаваў палонных. Афіцэраў адразу аддзялілі ад астатніх. Іх павезлі туды, адкуль не вяртаюцца. З шэрагоўцамі абыходзіліся больш мякка. Але самай прадуманай прапагандысткай сістэмай, якая мусіла давесці насельніцтву Заходняй Беларусі, што прыйшла нібыта іхная ўлада рабочых і сялян, была пастаноўка з сярэднім саставам, такім, як мой дзед, які быў капралам. Такіх вайскоўцаў пастроілі і прымусілі выцягнуць рукі ўперад. А камісар падыходзіў да кожнага і правяраў ці ёсць на руках мазалі. Калі мазалёў не было, то небараку адпраўлялі разам з афіцэрамі.

Тыя, у каго мазалі тады яшчэ не паспелі былі пазлазіць, праз доўгія гады ўспаміналі ў гамонках паміж сабой пра сваіх знаёмых лекараў, настаўнікаў, інтэлігентаў, ды і нават земляробаў, у якіх мазалі да рук не браліся, і якія ніколі больш не вярнуліся дахаты. Яны называлі іх імёны ды смуткавалі пра гаротны лёс іх сем'яў, з якімі бальшавікі абышліся гэтак жа, толькі крыху пазней.

Іх таксама некуды вывозілі і зараз мы ведаем куды.

Адно з такіх месцаў — Курапаты. Яго адкрылі і паказалі беларусам і ўсяму свету. Хто меў вочы, той убачыў. Хто меў сэрца, той заплакаў. Хто меў сумленне, той паставіў свечку, крыж, або проста схіліў галаву, ушаноўваючы памяць закатаваных ахвяр сталінізму. А вось хто не меў нічога з гэтага, той пачаў нішчыць і самі Курапаты, і тых, хто ўшаноўваў памяць загінулых там продкаў.

Па людскіх касцях, як па нацыянальнай памяці прайшла аўтамабільная траса. Тады гэтую частку народнага мемарыяла Курапаты адстаяць не ўдалося. Зараз там пачаліся новыя будаўнічыя работы. На людскіх рэштках мусіў паўстаць нейкі там цэнтр...

Бітва духоўных нашчадкаў тых, хто расстрэльваў і тых, хто бараніў, пачалася з новай сілай. Больш чым мільённы горад Мінск пакуль што актыўна не ўмяшаўся ў гэтую бітву. Яе вядуць пакуль што толькі самыя сумленныя яго прадстаўнікі. Хачу паўтарыць, горад актыўна не ўмяшаўся пакуль што. Але чыю пазіцыю Мінск зараз заняў, стала відавочна. У адваротным выпадку духоўныя нашчадкі тых, хто расстрэльваў, не саступілі б, а з вялікім задавальненнем знішчылі б ушчэнт гэты народны мемарыял. А не знішчылі таму, што зараз яны зразумелі, што гэты паўтарамільённы горад, як і дзесяцімільённая краіна ўжо выспелі да таго, каб умяшацца ў гэтую спрэчку актыўна. Менавіта актыўна, а не толькі дапамагаючы рэчамі, ежай і сродкамі, як зараз. І гэта можа здарыцца ў кожную хвіліну.

А можа здарыцца і так, што да гэтага выспее і ўся Еўропа. Беларусь называюць яе геаграфічным цэнтрам. Калі ўважліва паглядзець на мапу, то так яно і ёсць. А ў цэнтры Беларусі — Курапаты — духоўны цэнтр Беларусі. А можа і ўсёй Еўропы.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пра колькасць кручкоў

Параноі ў Беларусі аж занадта. У Польшчы (у апошні час) таксама. Толькі ці параноя гэта толькі палітычны кручок, на які маюцца злавіцца дробныя рыбкі, ці толькі прыём на «тоўстых рыб»? Ці ў Польшчы так званы «смаленскі сіндром» з'яўляецца паранояй часткі грамадства, ці хваробай цяперашняй улады? Ці можа гэта проста яе спосаб заняволіць усё грамадства? А ў Беларусі — ці масавыя акцыі супраць дэкрэта «на дармаедаў» з'яўляюцца прыкметай здаровага розуму грамадзян, ці іх калектыўнай параноі, якая ў канчатковым рахунку прынясе рэвалюцыю? На карысліваю ўцеху Расіі, дадам. А можа нават з яе інспірацыі? Ой, хіба і я пачынаю набірацца параноі...

Як аказваецца, параноя мае пазачасавыя ўласцівасці, інтэрнацыяналіцкія, і нават міжасобасныя. Гэта тычыцца ўсіх, усюды. Пераплывае свабодна праз памежныя кардоны і мытні, не зважаючы на ладавыя ці палітычныя адрозненні. Незалежна ад разумнага супрацьву грамадстваў, убіваецца клінам дурных дэкрэтаў у іх паўсядзённае жыццё. Часткова грамадства захоплівае, часткова сароміць, такім чынам абмяжоўвае яго калектыўны розум густой сеткай загадаў, абмежаванняў, юрыдычных недарэчнасцей. У агульнай складанасці, даводзіць чалавека да гогалеўскага вымярэння «Носа». Нагадаю, што ў гэтым інтрыгуючым апавяданні загаловачны орган, звычайны нос марнага асэсара Кавалёва, самавольна пакінуў яго аблічча, раптам набыў чалавечыя рысы і ў форме дзяржаўнага дарадцы стаў фарсіць «па-панску» на стыльнай калясніцы па вуліцах Санкт-Пецярбурга. З аднаго боку Гоголь не шкадаваў з'едлівай сатыры на «маленькіх людзей» і культ чыноўніцкага рангу, які з'яўляўся свайго роду сацыяльнай паранояй, кіруючай грамадскім жыццём, а з другога боку, выказаў здагадку, што паміж чалавечай суб'ектыўнасцю і яе аб'ектывацыяй спрацоўвае вельмі тонкая лінія.

На колькі беларусы адчуваюць сябе суб'ектыўнымі асобамі ў сваёй краіне? А хто кіруе імі? А як палякі? Чые насы кіруюць імі сёння? Дэкрэтная сістэма, створаная прэзідэнтам Лукашэнкам у Беларусі, відавочна, параноідальная. Дэкрэт аб так званых дармаедах гэта толькі вярхушка цэлага шэрагу прававых і адміністрацыйных глупстваў, якія паслядоўна зводзяць грамадства да ўзроўню бязносых ідыётаў. Яшчэ адзін прыклад падатку — ад грыбоў і падлесных пладоў сабраных у дзяржаўным лесе. Калі я правільна памятаю, мае ён уступіць у сілу ўжо сёлета. Ці восенню (грыбны сезон) беларусы зноў выйдуць на вуліцы? І калі так, то ці не для таго, каб адстойваць свае ўласныя насы?

Перавышэнне, асабліва з рысамі параноі, робіць хаос. Ад яго растуць жорсткія, крывавыя рэвалюцыі. Польскі Сейм пад ціскам кіруючага ПіС, якога заканадаўчая звышпрадукцыйнасць набрала стаханаўскага памеру, з'яўляецца яркім прыкладам. Так званы закон міністра Шышкі, легалізуючы бяздумную высечку дрэў на прыватных участках, гэта відавочны прыклад паранаідальнага лішку. Той самы лішак таксама знаходзіць сваё адлюстраванне ў законах аб адукацыі ці ў падрыхтоўваным наконт правасуддзя. Даволі шмат яго ў іншых заканадаўчых глупствах, якія пярэчаць здароваму сэнсу, інтарэсам грамадзян і нармальнай дзяржаве.

Хто ведае, аднак, ці ўзрастаючы хаос, які мае выхад у нездаровым функцыянаванні беларускай ці польскай дзяржаў, не вярнуў сваю разбуральную хвалю да сваіх уласных крыніц. Яраслаў Качынскі, які быў патронам прызначэння на міністра спадара Яна Шышкі, публічна паабяцаў выправіць яго заканадаўчы пшык на высечку дрэў. Вось галоўная прычына хаосу — нешта ламаецца, штосьці папраўляецца, і далей будзе тое самае. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, для прыкладу, «у Беларусі абавязвае зашмат стандартаў і кіруючых прынцыпаў для розных галін эканамічнай дзейнасці, як, напрыклад, правіла пра тое, што яйкі, мяса і малако нельга захоўваць у адным халадзільніку. Большасць людзей выкарыстоўвае адзін халадзільнік і чамусьці ніхто не атруціўся» — здзівіўся прэзідэнт. І драматычна спытаўся: «Якія адносіны мае лік кручкоў у распранальні сталовай (з захаваннем санітарных законаў)?» Ну вось! Толькі хто гэтыя «кручкі» кінуў ці дазволіў кінуць? Эх, лепш трымаймася сваіх насоў!

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма

# За гістарычную праўду — нашу і вашу? (4)

Ад гісторыі і палітыкі не ўцячэш. Можам заракацца, што мы не маем з ёю нічога супольнага, але аднак такім ці іншым чынам абмотвае яна нас сваёй павуцінай. І чым далей, то ўсё мацней. Таксама як у выпадку чарговага майго фельетона з вышэйпрыведзеным загалоўкам. Таму далей пішу яшчэ пра Рамуальда Райся «Бурага» і польска-беларускія дачыненні.

Справа «Бурага» раптоўна апынулася ў полі зацікаўлення агульнапольскіх медыяў, якія знаходзяцца ў ідэйным змаганні з сённяшняй уладай. Лепей позна чымсьці ўвогуле. Аднак інструментальнае выкарыстоўванне медыямі і некаторымі палітычнымі групоўкамі і грамадскімі рухамі нашай нацыянальнай трагедыі для сваіх партыкулярных інтарэсаў падказвае мне з вялікай насцярожанасцю ставіцца да такіх саюзнікаў. Чаму гадамі тыя ж медыі і палітыкі пра справу маўчалі і нічога не зрабілі ў карысць маральнай і фінансавай кампенсацыі сем'ям памардаваных? Гэта адна з самых першых спраў, якая ад двух з лішнім дзясяткаў гадоў ставілася нашым асяроддзем чарговым польскім уладам. І як гарох аб сцяну, або галавою ў мур — вынік усіх дзеянняў у гэтай справе аказаўся нулявым. Цягам васьмі гадоў знаходжання пры ўладзе кааліцыі Грамадзянскай платформы з сялянскай партыяй, у прысутнасці ў Сейме дэпутатаў ад левых сіл справу кампенсацыі можна было вырашыць з пашанай для загінулых і іхніх нашчадкаў. Калі кіруючым краінай перапрашалі вакол усіх і за ўсё, то аднак і мясцовым палітыкам, і міністэрскім чыноўнікам не прыйшло ў галаву, каб на дзяржаўным узроўні ўскласці кветкі ў месцах нашай траўмы і таксама выбачыцца за гістарычную даўніну. Бо хто ж будзе выбачацца перад няшчаснымі, простымі, беларускімі сялянамі! Панскі гонар на гэта не дазволіў. І палітычная арыфметыка, бо што ж можна ў апытаннях выйграць для ўлады на такой сорамнай для польскай гісторыі справе. У канцы Дзень выклятых жаўнераў устанавіў прэзідэнт Браніслаў Камароўскі. Лепш змаўчаць і спусціць заслону забыцця. Але цяпер, калі апынуліся ў апазіцыі і дасталі ў ср...у, то ізноў узгадалі, што трэба пакрычаць у абароне... сваіх інтарэсаў, скарыстоўваючы выклікі ситуацыя гнеў менш... Дзеля гістарычнай памяці нагадайма яшчэ, што рэабілітацыя «Бурага» з усімі таго паслядоўнасцямі адбылася ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя ў час, калі Польшчай кіраваў Саюз левых дэмакратаў. Ён меў тады поўную ўладу ўключна са сваім прэзідэнтам Аляксандрам Кваснеўскім, які вельмі любіў гасцяваць на Падляшшы. Маючы такую базу, праблем пасляваеннай даўніны не хацелі ўзняць і вырашыць тадышнія падляшскія ўлады і мясцовыя беларуская паслы ад былых камуністаў. Не заікнуліся ані словам вечныя «абаронцы нацыянальных меншасцей». Калі цяпер гляджу, слухаю і чытаю поўныя заклапочанасці выказванні пра справу маршу нацыяналістаў у Гайнаўцы розных палітычных ашуканцаў, якія, маючы рэальную ўладу ні пальцам не варухнулі, каб яе вырашыць, то ўсе яны глядзяцца мне як драўляныя лялькі Пінокія, якім ад хлусні растуць і растуць насы. Пры тым згодна паўтараюць словы аднаго вугорскага палітыка: хлусілі, хлусім і будзем хлусіць у любую пару дня і ночы. Знайсці звычайную, чалавечую эмпатыю ў такіх драўляных паяцыкаў, здаецца, справа амаль невыканальная.

У адным з папярэдніх фельетонаў з гэтага цыкла згадаў я двухсэнсавасць паводзін беларускай дыпламатыі ў справе «Бурага» ў кантэксце сённяшніх польска-беларускіх міжпарламенцкіх дачыненняў. Аднак пасля гайнаўскага маршу кіраўнік рабочай групы Нацыянальнага сходу Беларусі па супрацоўніцтве з парламентам Польшчы Андрэй Навумовіч станоўча заявіў: «Марш памяці «выклятых жаўнераў», які адбыўся напярэдадні ў польскай Гайнаўцы — цынічная правакацыя для нагнятання напружанасці паміж беларусамі і палякамі». Усё мела месца напярэдадні святкавання дваццаць пятай гадавіны ўстанаўлення дыпламатычных зносін паміж польскай і беларускай дзяржавамі і ў час чарговых, міністэрскіх двухбаковых кансультацый. Гэта першая так выразная заява беларускага боку наконт сённяшняй гістарычнай палітыкі Польшчы.

**Яўген ВАПА**




# Дваццаць гадоў «Антракту»

**Ужо амаль 20 гадоў працуе ў Бельскім доме культуры Альжбета Фіёнік, якая заснавала і ўдала арганізуе дзейнасць тэатральнага калектыву «Антракт», у якім у трох узроставых групах займаецца некалькі дзясяткаў вучняў. Прэзентаванне нашых абрадаў, беларускага неапрацаванага фальклору, а таксама дэкламацыя па-беларуску з'яўляецца вельмі важнай часткай дзейнасці «Антракту», якога ўдзельнікі спачатку вучацца выступаць на сцэне, а пасля разгортваюць свой акцёрскі талент. Тры гады назад быў заснаваны тэатр сеніёра «Рэтра», у якім выступаюць перш за ўсё члены беларускага хору песні і танца «Васілёчкі». Яны падчас «Спасаўскіх запустаў» і пры іншых нагодах разам з членамі «Антракту» сталі паказваць абрады і тады афіцыйна завязалася абрадавая група з прадстаўнікамі розных пакаленняў «Антракт+», да якой належаць сеніёры і вучні «Антракту». Альжбета Фіёнік з'яўляецца тэатральным кіраўніком гэтых груп, у якіх займаюцца таксама дэкламатары. Усе яны займальна запрэзентаваліся 23 лютага на сцэне Бельскага дома культуры падчас юбілею 20-годдзя дзейнасці тэатральнага калектыву «Антракт». Адбывалася гэта падчас штогадовых тэатральных запустаў і ў прысутнасці шматлікіх гасцей, якія прыехалі павіншаваць Альжбету Фіёнік і яе тэатральны калектыў. Не падвяла бельская публіка, якая запоўніла канцэртную залу.**

Святкаванне пачалося з віншавальных прамоў і ўручання Альжбеце Фіёнік ганаровых грамат, дыпломаў, кветак і, канешне, падарункаў, на якія заслужыў тэатральны калектыў «Антракт» за сваю плённую дзейнасць. Свае ўмеласці ўдзельнікі «Антракту» паказалі на сцэне. Яны дэкламавалі, паказалі тэатральныя пастаноўкі і вясельны абрад «Выезд да шлюбу». Дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская, віншуючы тэатральны калектыў «Антракт» і яго мастацкага кіраўніка Альжбету Фіёнік з юбілеем, звярнула асаблівую ўвагу на каштоўнасць захоўвання калектывам даўніх народных абрадаў, песень і на яго супрацоўніцтва з Музеем малой айчыны ў Студзіводах. Бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі высока ацаніў паспяховую дзейнасць Альжбеты Фіёнік і яе тэатральнага калектыву «Антракт» і ўручыў грашовую ўзнагароду. Віншаванні ад маршалка Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскага і яго намесніка Мацея Жыўны перадаў дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап. Уручыў ён падарунак і пахваліў юбіляраў за рэканструкцыю традыцыйных абрадаў і прэзентаванне песеннай спадчыны беларусаў Беласточчыны. Надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў у зачытаным лісце пахваліў Альжбету Фіёнік і яе тэатральны калектыў за адданасць роднаму слову, за ўклад у справу захавання і папулярызацыі беларускай песні і традыцый беларускага народа. Дыплом ад Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы перадала намеснік кіраўніка гэтага цэнтра Юлія Рубіна. Намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень выказаў словы ўдзячнасці Альжбеце Фіёнік і «Антракту» за любоў да Бельскай зямлі, беларускай абраднасці і малой айчыны. «Антракт» павіншавалі з юбілеем войт Бельскай гміны Раіса Раецкая, працаўнікі БДК, прадстаўнікі школ і сябры тэатральнага калектыву. «Антракт» паўстаў у верасні 1997 года і за 20 гадоў дзейнасці прайшло праз калектыў каля 180 асоб, а тыя вучні, што займаліся ў пачатку дзейнасці тэатральнага калектыву, зараз ужо працуюць прафесійна. Прафесійнымі акцёрамі сталі Юлія Дораш і Тамаш Таранта, а журналістамі — Тамаш Суліма, Себасцьян Місюк і Міхась Сцепанюк, які вёў юбілейнае мерапрыемства.

— Мінае ўжо 20 гадоў дзейнасці нашага тэатральнага калектыву «Антракт» і маёй працы ў Бельскім доме культуры. У 1997 годзе завязалася група вучняў, якую я падчас канікулаў падрыхтавала да выступу з абрадам. Мы запрэзентавалі яго падчас «Спасаўскіх запустаў». З гэтай групы паўстаў наш тэатральны калектыў, а слова «антракт», якім мы сябе назвалі, абазначае перапынак у тэатральнай пастаноўцы. Мы пачалі гуляць у тэатр. Я стала вучыць правільнаму маўленню, паводзін на сцэне. Нашы вучні сталі ўдасканальваць свой акцёрскі варштат. Асобы, якія займаліся ў першых складах «Антракту», дэкламавалі таксама па-беларуску, — сказала Альжбета Фіёнік. — Я асабліва хацела развучваць з маладымі асобамі і паказваць на сцэне нашы беларускія народныя абрады, бо і па гэтай абрадавай спецыяльнасці я вучылася ва Універсітэце культуры ў Мінску. Маім настаўнікам быў там Ілья Сучкоў, славуты спецыяліст па фальклоры і абрадах Беларусі, які са студэнтамі сарганізаваў многа экспедыцый па зборы беларускага фальклору. Старэйшыя члены «Антракту» рыхтавалі і прэзентавалі нашы абрады, а малодшыя дзеткі паказвалі перш за ўсё на польскай мове пастаноўкі казак. Я — беларуска і многія нашы вучні таксама выводзяцца з беларускіх сем'яў. Зацікаўленне вучняў нашымі абрадамі, беларускімі песнямі спрыяе таксама фарміраванню нацыянальнай беларускай свядомасці.

У «Антракце» найбольш займалася вучняў бельскай «тройкі». Выступалі таксама дзеткі з іншых бельскіх школ, а нават вучні з Гайнаўкі і Беластока. Найбольшых поспехаў калектыў дабіўся, прэзентуючы абрады, запісаныя перш за ўсё ад беларусаў Бельшчыны — «Вяселле», «Хрысціны», «Рэкруты», «Сенакосы», «Жніво», «Калядаванне», «Шчодры вечар». Многа разоў «Антракт» выступаў з тэатральнай пастаноўкай «Бежанства». Ён удала выступае падчас аглядаў «Беларускі абрад на сцэне» і «Звязда і каляда», якія ладзіць БГКТ. У 2002, 2004, 2006, 2008, 2014 і 2016 гадах «Антракт» займаў першае месца, а ў 2012 годзе заняў другое месца ў Ваяводскім аглядзе вясковых і абрадавых тэатраў у Ломжы, прэзентуючы нашы традыцыйныя беларускія абрады. Штогод нашы абрады «Антракт» удала прэзентуе перад бельскай публікай падчас «Спасаўскіх запустаў». У 2008 годзе падчас Сцэнічных прэзентацый устаноў культуры ў Варшаве тэатральны калектыў з Бельска здабыў галоўную ўзнагароду, а ў 2013 годзе «Антракт» заняў першае месца падчас тэатральнага агляду «500 хвілін гісторыі Падляшша вачыма дзяцей» у Драгічыне. У 2015 годзе «Антракт+» паспяхова выступіў у тэатральнай рэканструкцыі выезду сялян са Студзіводаў у бежанства. У гэтым жа годзе з пастаноўкай «Бежанства» калектыў выступіў у розных мясцовасцях Падляшша. У 2016 годзе «Антракт» удала выступіў падчас «Міжнароднага марафону творчасці» ў Кобрыне, дзе заняў другое месца. «Антракт» дабіваўся пераможных месцаў выступаючы на беларускай мове ў тэатральным і вакальным конкурсах, арганізаваных БГКТ для вучняў. Важнае месца ў «Антракце» займае дэкламатарская група, удзельнікі якой займалі прызавыя месцы падчас дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова».

Падчас юбілейнага святкавання малодшая група «Антракту» запрэзентавала на бельскай сцэне «Казку пра бельскага цмока», якая ўпершыню паказвалася 15 гадоў таму. Цікава запрэзентавалася старэйшая група «Антракту» з тэатральнай пастаноўкай «Дзённік Веры», падрыхтаванай на падставе ўспамінаў Веры Бусловіч з Ягуштова перыяду Другой сусветнай вайны. На асаблівую ўвагу заслугоўвае тут умелая ігра акцёраў. Тэатр сеніёра «Рэтра» ў сваю чаргу цікава запрэзентаваў фрагмент спектакля «Як Швейк ішоў на вайну».

— Я вельмі рада, што ўдзельнічаю ў тэатры сеніёра «Рэтра», у якім магу разгортваць свае зацікаўленні. Трэба вучыцца, рыхтавацца да выступаў на сцэне, але гэта дае радасць. Асабліва вартасныя выступы «Антракту+» з абрадавымі прадстаўленнямі, калі наша маладое пакаленне вучыцца нашым традыцыям, — заявіла Ніна Бялецкая, арганізацыйны кіраўнік беларускага хору «Васілёчкі».

Уладзімір Весялоўскі, удзельнік «Рэтра» і «Васілёчкаў», сказаў, што выступаў перад польскай публікай, якая высока ацаніла яго дэкламацыю па-беларуску. Члены «Антракту» і тэатра сеніёра «Рэтра» цікава дэкламавалі па-беларуску і па-польску. Займальна дэкламавалі выпускнікі бельскай «тройкі» Юстына Марчук і Павел Кучынскі, якія ў мінулых гадах удала выступалі ў тэатральных пастаноўках. Усімі іншымі маімі суразмоўцамі з «Антракту» аказаліся цяперашнія вучні бельскай «тройкі». Удала дэкламавалі Таіса, Ілья і Максім Фіёнікі, дзеці Альжбеты Фіёнік, лаўрэаты шматлікіх дэкламатарскіх конкурсаў. Стыпендыятамі маршалка Падляшскага ваяводства былі Максім Фіёнік за 2016 год і Павел Кучынскі за 2015 год. Цікава дэкламавалі таксама Аляксандра Зінкевіч і Інэса Гапонюк.






■ **Юбіляраў павіншаваў дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап**

— У «Антракце» пані Эля вучыць нас правільнаму дэкламаванню і мы разгортваем свае тэатральныя ўмеласці. Мы доўга займаемся ў тэатральным калектыве і рады, што можам выязджаць на выступы ў Беларусь і ў розныя месцы ў Польшчы, бо гэта для нас вылучэнне, — гаварылі Аляксандра Зінкевіч і Інэса Гапонюк.

Уля Алексяк — скрыпачка і спявачка ў «Жэмэрве», акцёр і спявачка ў «Антракце», сказала, што ёсць яшчэ некалькі асоб, якія займаюцца ў абодвух згаданых калектывах адначасна.

— Выступаючы на сцэне мы здабываем адвагу, патрэбную нам у далейшым жыцці і вучымся правільна іграць і гаварыць. Мы ў «Антракце» стараемся жыць дружна, а калі здараюцца нейкія недаўменні, мы стараемся зараз разгрузіць напружанасць. Пані Эля ўмее навучыць нас паводзіць сябе на сцэне і апякуецца намі ў розных абставінах, — сказала Паўліна Нямыйская, якая пазней па-акцёрску зайграла перапалоханую маладуху.

Юбілейную праграму завяршыла тэатральная група «Антракт+» пастаноўкай часткі вясельнага абраду «Выезд да шлюбу». Галоўнымі героямі былі вучні са старэйшай групы «Антракту», якіх успамаглі сеніёры з калектыву «Рэтра» і дзеткі з малодшай групы «Антракту». Умелая ігра маладых і старэйшых акцёраў захапіла публіку, якая пасля апошняга выступу асабліва горача апладзіравала. Пасля ўсе члены «Антракту» атрымалі індывідуальныя падарункі. Была яшчэ і неспадзеўка — юбілейны торт і салодкія стравы, паколькі ў праваслаўных быў гэта перыяд «Масленіцы», а ў каталікоў — «тлусты чацвер».

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Сакольская дэмаграфія

Зараз у Сакольскай гміне пражывае 7 583 чалавек у 75 вялікіх і малых (іх найбольш) населеных пунктах. У ёй 45 салэцтваў. Гміна займае плошчу ў 314 квадратных кіламетраў і гэта 15% тэрыторыі Сакольскага павета. 70% яе тэрыторыі займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і 21% лясы. Цікавінкай у гміне з'яўляецца запаведнік прыроды Казловы Луг — вялікая плошча высокіх тарфянікаў у Кнышынскай пушчы. Шчыльнасць насельніцтва ў гміне — 83 чалавекі на 1 квадратны кіламетр. Сакольская гміна па-суседску з Чорна-Беластоцкай, Янаўскай, Кузніцкай, Сідранскай, Супрасльскай і Шудзялаўскай гмінамі ды мяжуе з Беларуссю.

У Сакольскай гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын (у суседняй Шудзялаўскай гміне 100 на 100). Многа ўдоў ва ўзроставай групе 80 і больш гадоў — утрая больш чымсьці мужчын. У 2016 годзе ў сакольскім ЗАГСе зарэгістравалі 528 нараджэнняў (278 дзяўчынак і 250 хлопчыкаў). Найбольшай папулярнасцю сярод бацькоў нованароджаных карысталіся імёны — для дзяўчынак: Юлія, Мая, Алівія, Ганна, Зузанна і Галена, а для хлопчыкаў: Якуб, Антон, Шыман, Бартламей, Міхал і Францішак. Было 434 паховін. Пажаніліся 162 пары ды разваліся — 48 пар. «Залатое вяселле» згулялі 39 пар (у кожнай з іх муж і жонка пражылі з сабою 50 гадоў).

Найбольшыя вёскі ў Сакольскай гміне гэта: Старая Камёнка — 592 жыхары, Богушы — 445, Красняны — 284, Ліпіна — 281 і Сакаляны — 255; сярэднія (ад 150 да 200 жыхароў): Номікі, Слойнікі, Старая Раздранка, Павэлкі, Новая Камёнка, Новая Раздранка, Куроўшчына, Генюшы-Вялікія, Глінішчы-Вялікія, Драглі і Янаўшчына ды меншыя ад сярэдніх (ад 100 да 150 жыхароў): Генюшы, Ігрылы, Плебанаўцы, Страж, Малявічы-Дольныя, Арловічы, Шышкі, Задвараны, Панятовічы, Баброўнікі, Заспіча, Падкамёнка і Кундзічы.

Самымі малымі паселішчамі ў гміне з'яўляюцца Дамброўка і Галянскія Агароднікі — па 3 жыхары, Татаршчына — 4, Карчэ — 9, Воўчая Яма, Пад'яноўшчына, Стадольнае і Сцебелец — па 10, Пакантароўка — 12, Казловы Луг — 13, Ліпавая Гара — 14, Тартак — 15, Паўлоўшчына — 16, Замчыск — 18, Гнідзін — 20, Новая Мачальня і Пагібло — па 21, Врочыншчына і Багушоўскі Выган — па 22, Засцянкі каля Богуш — 23, Двожыск — 24, Засцянкі каля Куроўшчыны і Верх'едліна — па 25, Астравок — 30, Гільбоўшчына — 39, Маслянка — 40, Шындзель — 42, Стары Шор — 43 і Бухвалова — 48 жыхароў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## У здаровым целе, здаровы дух

Наступіла вясна, ажывае прырода. Варта затым пакарыстацца цёплымі прамянямі сонца і асвяжальным пахам лесу. Таварыства аніматараў лакальнай ініцыятывы «Амега» штогод арганізуе заняткі па скандынаўскай хадзьбе па ўскраіне Чаромхі. Ініцыятарамі краязнаўчых паходаў з'яўляюцца Уршуля Савіцкая і Моніка Ярмуловіч. Сёлетні паход арганізавалі ў суботу 4 сакавіка і прымеркаваны ён быў да Дня жанчын. Каля поўдня група з шасці жанчын і аднаго мужчыны выйшла з-пад Гміннага цэнтра культуры. Як штогод так і цяпер у паходзе ўдзельнічалі госці з Гайнаўкі. Васьмікіламетровы маршрут, які праходзіў ляснымі сцяжынкамі, пешаходы адолелі цягам дзвюх гадзін, а закончыўся на вуліцы Сасновай пры доміку паляўнічых. Там ужо чакаў касцёр з гарачым пачастункам. Пасля працяглага паходу печаная кайбаска была ласункам. Але ніхто з удзельнікаў не праяўляў стомы. Атмасфера пад паветкай была сямейная, сяброўская. Нездарма ў народзе кажуць: «У здаровым целе, здаровы дух». Варта запомніць народную мудрасць.

**(УС)**

# Якая кніга найлепшая?



■ Злева: Шымон Тэжэўскі, Наталля Федарчук, Анэта Прымака-Онішк і Пётр Яніцкі

**Наталля Федарчук, Анэта Прымака-Онішк, Пётр Яніцкі і Шымон Тэжэўскі — намінаваны на XXVI літаратурную прэмію прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за найлепшую кнігу выдадзеную ў 2016 г. аўтарамі звязанымі з Беласточчынай. Капітул узнагароды імя В. Казанэцкага Галіна Казанэцкая, Дар'юш Кялчэўскі, Яраслаў Кляйноцкі, Марэк Каханоўскі, Катажына Савіцка-Мяжынская, Юстына Сабалеўская, Данута Завадская з 22 кніг намінаваў творы чатырох аўтараў. Былі яны гасцямі на агульнай сустрэчы ў цэнтры Людвіка Заменгофа.**

Наталля Федарчук намінавана за кнігу-рэпартаж (?) «Jak pokochać centra handlowe», Анэта Прымака-Онішк за «Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy», Пётр Яніцкі з Супрасля — за кнігу вершаў «13 sztuk» і Шыман Тэжэўскі з Аўгустова за дэбютанцкую кнігу прозы «Eteromanka», усталяваную ў даваенным Аўгустове, у якім злачынства спалучаецца з раманам жахаў. Раман наймалодшага аўтара заняў быў першае месца ў леташнім літаратурным конкурсе «Jestem tu» і выдаў яго Ваяводскі асяродак анімацыі культуры (адзіная кніга з намінаваных выдадзеная ў Беластоку). Хто атрымае ўзнагароду імя Казанэцкага, даведаемся 24 сакавіка.

Жанчыны-аўтаркі да сустрэчы, як заўважылі некаторыя слухачы, падышлі без іроніі і «люзу», якім аўдыторыю адарылі аўтары-мужчыны. Забытыя бежанцы і жанчыны ва ўмовах крызісу — галоўная тэма іх твораў. Наталля Федарчук (псіхапедагог, кампазітарка, вакалістка, мастачка і публіцыстка) у сваім рэпартажы з цяперашняга часу сягнула па мацярынства, не заўсёды бясхмарнае. Яе кніга ўвайшла ў дыскусію аб становішчы жанчын. Яна стала маці, і гэты працэс паглынуў яе — пачала чытаць шмат сацыялагічных і эканамічных даследаванняў па гэтай тэме: «Я напісала кнігу пра ізаляцыю, крызіс і змену, неабавязкова добрую». Узнагароджаная Пашпартам «Палітыкі» 2016 г. дэбютная кніга першапачаткова была прызначана ў якасці так званага чытання для выхавання дзяцей, прысвечанага бацькоўству.

Анэта Прымака тлумачыла вялікай колькасці несарыентаваных у тэме чытачоў:

— Бежанства гэта гісторыя з Першай сусветнай вайны. Гэта таксама гісторыя сялян, пра якую ніхто асабліва не клапаціўся. Толькі дзеці і ўнукі бежанцаў мігруюць у гарады і пачынаюць адукавацца. Гісторыя іх продкаў не запісаная і пачынаюць праяўляць да яе цікавасць. Па розных прычынах прызнавацца да таго, што людзі былі ў бежанстве, не віталася. Калі людзі вярталіся з бежанства ў 1920-я гады, рос страх перад камунізмам, перад бальшавікамі. Калі хтосьці быў у Расіі, дык быў ён верагодна, шпіёнам, і яго рэпрэсавалі. Журналістка публікавала, сярод іншага, у газетах «Gazeta Wyborcza», «Polityka», «National Geographic», штоквартальніку «Karta". Удзельнічала ў стварэнні Навуковага цэнтра «Капернік», была прэс-сакратаром падчас будаўніцтва і адкрыцця ўстановы. З 2014 г. вядзе вэб-сайт biezenstwo.pl.

Пра бежанства і выезд з Расіі Анэта Прымака ведала з расказаў сваёй бабулі:

— Мне было тады сем гадоў, і гэтая гісторыя для мяне была чымсьці, што межавала з казкай і рэальнасцю. Памятаю час, калі слова «bieżeństwo» ўбачыла я ўпершыню ў пісьмовым выглядзе. Гэта здарылася, калі я была ўжо студэнткай і гэта было для мяне шокам. Гэта таксама было знакам, што тое, што я чула, было рэальным. Я падумала: «Нічога сабе, гэта адбылося на самой справе». Часам бываюць такія гісторыі, якія не адпускаюць. Паявілася пытанне, чаму гэтая гісторыя ўсё вяртаецца? Я задавалася пытаннем, што засталося ад падзей стогадовай даўнасці. Хацела вярнуць гісторыю людзей, якія ўжо не існавалі. У маім выпадку мая асабістая тэма была маторам для маёй працы. Я мела свядомасць, што мая гісторыя ўпісана ў гісторыю мільёнаў людзей. Калі я наведвала вёскі, размаўляла з многімі людзьмі, былі яны вельмі рады, што я хачу заняцца гэтай тэмай. Людзі ўжо хацелі расказваць пра гэта. Тэма бежанства не раз адчыняла мне дзверы. Мая бабуля, у поўным сэнсе, вярнулася да мяне. Раней была хутчэй фігурай бабулі для кахання. Але я не ведала яе як жанчыну. Пры напісанні гэтай кнігі бабуля прыйшла да мяне, выхінулася з мінулага, стала мне блізкай. Воссю кнігі з'яўляецца гісторыя маёй бабулі Надзеі з Кнышэвіч. Сакольшчына і сама Саколка тут вельмі шмат прысутнічае. Я родам згэтуль, вельмі звязаная з рэгіёнам і людзьмі. Атрымала я ад мясцовых жыхароў шмат цудоўных, шчырых аповедаў. Тут я знайшла таксама крыху дакументаў з часу бежанства, якія былі важнымі для ўзнікнення кнігі. Да нядаўняга часу гэтая тэма не існавала ў публічнай прасторы. Не вучылі пра гэта ў школе, не згадвалася ў даследаваннях гісторыі рэгіёна, не было ані слова ў рэгіянальных музеях, а гэтая ж падзея страсянула ўвесь тутэйшы свет. Гэтая дыхатамія паміж памяццю сямейнай і афіцыйнай мяне зацікавіла. Я адчувала, што гэта важная падзея, якая павінна вельмі эмацыянальна уплываць і праўнукаў бежанцаў. Я хацела зразумець, чаму яна афіцыйна не існуе? Што пра нас кажа такое публічнае бяспамяцтва?

— Чым вы тлумачыце тое, што тэма бежанства толькі праз сто гадоў трапіла да шырокай свядомасці? — распытваў вядучы сустрэчу Анджэй Байгуз.

— Фактараў шмат. Па-першае: бежанства гэта час Першай сусветнай вайны, пра якую ў нас гаворыцца ў кантэксце незалежнасці Польшчы. А ў гэтую гісторыю бежанства ўвогуле не ўпісваецца. Проста не мае яно значэння. Па-другое — сялян тады ніхто не заўважаў. Толькі пасля доўгага часу сталі глядзець на іх як на людзей, якія ўвогуле маюць нейкую гісторыю. Ужо іх унукі пытаюцца пра тую гісторыю. А паколькі гэта гісторыі сялянскія, народныя, дык не запісаны. Трэба шукаць, пытацца. Акрамя таго бежанцы гэта перш за ўсё праваслаўныя сяляне, — гэта таксама ўскладняла гаворку пра гісторыю. У ПНР не было месца для меншасцей. Па розных прычынах, гэтае пытанне не было добра прынятым. І такім чынам увогуле пра гэта не гаварылася. Веды пра бежанства прабіліся досыць позна, амаль сто гадоў пасля падзеі. Але трэба памятаць, што мая кніга не з'яўляецца першай публікацыяй на гэтую тэму. Раней матэрыялы па гэтым пытанні выдала «Ніва». Мая кніга ўяўляе сабой рэпартаж і з'яўляецца першай публікацыяй на гэтую тэму выпушчанай агульнапольскім выдавецтвам.

— Кніга Анэты Прымакі-Онішк, — адзначаецца таксама на форумах узнагароды імя Рышырда Капусцінскага («Бежанства» апынулася ў спіску дзесяці намінаваных з усёй Польшчы) — кавалак добрага рэпартажу, які адзначаецца мноствам эмоцый і чалавечых трагедый. Аўтарка раскрывае мноства фактаў і дазваляе многім чытачам, часам першы раз у іх жыцці, пазнаёміцца з гэтай тэмай. Самае галоўнае, гэта не сухая пісьмовая справаздача, з мэтай прадставіць найбольш важныя факты. Тое, што выцякае пасля чытання гэтай кнігі, гэта вельмі шмат чалавечай драмы. Лікі адыходзяць на задні план. Сутнасцю гэтай гісторыі на самой справе з'яўляюцца сапраўдныя людзі, хаця неабавязкова названыя поўным імем і прозвішчам, рэальныя людзі з плоці і крыві, і іх драматычнае жыццё са страхам і няўпэўненасцю, але і смерцю, якая ў іх шэрагах загасціла назаўжды.

Самым вялікім героем сустрэчы стаў аўтар эксперыментнага зборніка «13 sztuk» Пётр Яніцкі. Пачаў ён па-шоўменску ілюстраваць свае вершы, чытаючы іх і паказваючы дзіцячыя малюнкі. Шоў выклікала абурэнне адной паланісткі і заадно паэтэсы з публікі, якая абвінаваціла Яніцкага ў дурных жартах з паэзіі мастацтва ды лішняй іроніі, а Шымана Тэжэўскага ў бяздушнасці і абыякавасці. «Гэта не паэзія, якая разбурае! — паўтарыла яна за Вальдэмарам Смашчам (ягонае выказванне пачулі мы з аўдыёзапісу), — не паказвае росту душы і свята, не ядная». Паддала яна пад сумнеў сёлетнія намінацыі. Падкрэсліла, што кніг яшчэ не чытала, а сваё меркаванне грунтуе на аповедзе запрошаных гасцей аб іх уласнай творчасці. На аўтарак не падкардзілася, на самой справе не падабаўся ёй іранічны тон двух мужчын, якія расказвалі і паказвалі тое, што яны напісалі.

Старшыня капітула Катажына Савіцкая-Мяжынская адказала:

— Ні на хвіліну не сумняваемся, што мы прынялі адпаведнае рашэнне. Кожная з гэтых чатырох кніг цікавая, кожная пераносіць нас у іншыя, новыя светы, кожная звязаная на свой спосаб з Падляшшам! — і пахваліла лік і якасць кніг заяўленых сёлета да ўзнагароды: — Гэта быў вельмі добры год!

Першы раз да ўзнагароды імя В. Казанэцкага была заяўлена кніга на іншай чым польская мове — Андрэя Сцепанюка «Раслісаны квадрат», выданне Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва». Не атрымала яна намінацыі да ўзнагароды прэзідэнта горада Беластока, але апынулася ў спісе найлепшых кніг 2016 года.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Мае падляшскія дзевяностыя (ч. IV)



**Світар «Boys»**

На пачатку 1990-х гадоў у нашай школе была мода на турэцкія світары маркі «Boys», якія прадаваліся на ўсіх падляшскіх базарах. Апраналіся ў іх усе хлопцы з нашай школы. Таксама я на адным здымку ў «Зорцы» маю на сабе гэты світар.

**Джынсы**

Калі ў 1980-х гадах усе марылі мець модныя джынсы, то ўжо ў 1990-х маглі здзейсніць гэтую мару. 1990-я гэта эпоха джынсаў розных колераў ды розных фасонаў. Джынсы можна было купіць усюды: на базарах, у крамах. Цяпер заўважаю, што мінае мода на гэты матэрыял.

**Канікулы на вёсцы**

Канікулы на вёсках для вясковых дзяцей і моладзі гэта была праца, праца і яшчэ раз праца. Як не сенакос, то жніво, як не жніво то другі пакос сена — атавы. Да таго трэба было хадзіць штодзень рана і вечарам з каровамі. Трускалкі, чарэшні, суніцы, ягады, яблыкі, слівы, грыбы, грушы. Ніхто з вясковых дзяцей у 1990-х не ездзіў на мора, у горы, каб потым фоткамі пахваліцца на фейсбуку. Гэтая распуста зараз прыйшла на вёску.

**Мешаныя сужонствы**

У 1990-х гадах многія тадышнія хлопцы з нашай і суседніх вёсак пажаніліся з дзяўчатамі з Беларусі, Украіны, Малдовы, Расіі, Арменіі. Дзякуючы гэтым жанчынам Маліннікі не прапалі і не памерлі, таму што ў тых сем'ях нарадзілася многа дзетак. Наша вёска сапраўды стала «International». Чуць не Савецкі Саюз.

**Малацьба «Вармянкай»**

Інтэграцыйная рабоча-гасцінная імпрэза. Найчасцей на каталіцкае Раджаство цэлая вёска прыходзіла да нас, каб дапамагчы змалаціць нам збожжа. Завадатарам гэтай імпрэзы быў уласнік легендарнай малатарні «Вармянка». У час працы жанчыны рыхтавалі абед і вячэру. Асабліва я любіў слухаць падчас вячэры як людзі, пад'еўшы ды падпіўшы, расказвалі цікавыя гісторыі. Мой бацька тады не піў, бо мусіў адвезці ўсіх дамоў.

**Украінцы**

Часам у нядзелю ў вёску на старых «Ладах», «Масквічах» і «Запарожцах», а таксама «Таўрыях» прыязджалі ўкраінцы. Асабліву ўцеху мелі вясковыя бабы. Можа таму, што ўкраінцы прывозілі ў асноўным вопратку, асабліва хусткі, якія бабы куплялі і накладалі ў царкву.

**«Раял»**

А я ў 1990-х гадах глядзеў на майго суседа-пенсіянера, які заўсёды сядзеў на лавачцы. Усё адбывалася паводле плану, нібыта сустрэча рускіх рыбакоў з фінамі ў кінакамедыі «Русская рыбалка». Не ўспеў ён добра пачухацца пад шыяй, калі каля яго затрымліваўся рускі спіртавоз. Тоўсты шафёр старога «Мерседэса» ветліва пытаў майго суседа: «Эй, пан, спірту вам надо?». «Надо, надо», — мармытаў стары і шчупаўся ў кашальку з грашыма, а рускі ўсоўваў яму пад пазуху бутэльку «Раяла» і ехаў на Полаўцы. Не дарма старыя бабы на вёсках казалі, што прыйдзе час, калі чорт будзе развозіць пякельную ваду, ад якой будуць паміраць мільёны людзей. А спіртавозы рэгулярна курсавалі ў 90-х гадах праз нашы падляшскія вёскі і шукалі сваіх ахвяр. Аднак мой сусед жыў доўга, таму што ў яго арганізм быў устойлівы да «Раяла», дэнатурату і іншых моцных напіткаў невядомага паходжання. Гэта на злосць чорту.

**Белліцэй**

У светабачанні нас, нашых бацькоў і аднавяскоўцаў — элітарная школа. Насамрэч, так і было. Найлепшыя настаўнікі, а вучні розныя, хаця тады было вельмі многа аліпмійцаў, а наш Бельскі белліцэй у 1998 годзе быў першы ў Падляшскім ваяводстве і восьмы ў Польшчы. Кожны, хто закончыў белліцэй, павінен гэтым ганарыцца. Вучылі нас прафесіяналы, а сяброўства з белліцэя гэта самыя трывалыя знаёмствы ў жыцці. Дваццаць гадоў таму я пачаў вучыцца ў Бельскім белліцэі.

**Украінец Пэтро**

Пецька меў свой ларок на канцы бельскага базару. Як адзіны з «рускіх» на бельскім рынку гаварыў па-ўкраінску і лічыў сябе ўкраінцам. Гэта быў высокі, хударлявы мужчына з казацкімі вусамі. З гэтымі вусамі я яшчэ больш яго ўяўляў у шырокіх шараварах ды ва ўкраінскай сарочцы-вышыванцы. Таргаваў украінскімі і рускімі касетамі і кампакт-дыскамі. Асабліва мой бацька пасябраваў з ім і пры кожнай нагодзе купляў касеты з музыкай. Часам можна было ў яго купіць беларускія касеты тыпу «Н.Р.М.». Вясковыя бабы куплялі ў яго касеты з царкоўнай музыкай. Пасля 2001 года Пэтро прапаў, а ў 2006 годзе з'явіўся на кароткі час ужо з дыскамі DVD з фільмамі. Восенню 2006 года зноў загінуў без весткі. Многа купіў я ў яго касет.




**Гурт «Made in Ukraine»**

Украінскі «Masterboy», «Imperio», «Sash!» і Robert Miles разам узятыя. Адзіная ўкраінская музычная група, якая ў 90-х мне падабалася. Яе першы альбом Пэтро прадаваў на прыхадскія святы як свежыя булачкі. Мне і маім сябрам падабалася, што «Made in Ukraine» спявала вядомыя народныя песні ў модных у 90-я аранжыроўках *eurodance*. Нават нашы «Прымакі» «ўкралі» ў іх славутую «Лілію». У 2008 годзе я здзівіўся, калі ў інтэрнэце знайшоў іх новы альбом, але на вокладцы альбома не было знаёмых мне твараў Олександра Коваленкі, Руслана Юдіна, Андрія Босенкі ці Антона Кофіна. Усіх іх знайшоў я ў інтэрнаце, узяў у іх інтэрв'ю і размясціў на сваім блогу muzykaslowian.bloog.pl. Яны здзівіліся, што нехта ў Польшчы іх слухаў і меў усе іх касеты. Адным словам, сапраўдный «Made in Ukraine» няма, а падшыванцаў пад славутую марку 90-х не бракуе.

**Валечка**

Славутая на ўсю Польшчу шаптуха. Менавіта ў 90-я найбольш аўтамашын пачало ездзіць у Орлю з рознымі хваробамі і рознай бядою. У яе быў амаль кожны на Падляшшы. Святары гаворацць, што грэх ехаць да яе, але людзі як ехалі, так і будуць ехаць. Па сённяшні дзень кожны лекар ці працаўнік аптэкі ў Беластоку пытае пра Валечку. Вядома — канкурэнцыя.

**Свойскі хлеб**

Што я даў бы, каб спрабаваць хаця скібку свойскага хлеба, печанага на сапраўдным квасе, без кансервантаў, проста з хатняй печы. Цеста мяшанае рукою пакойнай бабулі. Цэлы час прашу сваю матулю, каб спякла, а мама кажа, што танней купіць, чымсьці спячы. Ці цана іграе ролю? Смак свойскага хлеба ёсць бясцэнны і яго з сабой забрала мая бабуля Манька.

**Кіслае малако...**

Кіслае малако з сапраўднага малака проста ад каровы, да таго вараная бульба са скваркамі, пасыпаная зялёным кропам проста з агарода. Беспаваротны смак дзяцінства. Тады ўсе елі і неяк ніхто не лічыў кілакалорый як зараз... Смаката!

**Іегавісты**

Яшчэ ў канцы 1980-х прыйшлі іегавісты ў нашу хату. Пачалі навучаць, каб усе пакаяліся і што будзе канец свету. Мой дзед сядзеў на печы і крыкнуў:

— Як дасце пляшку гарэлкі, то я пайду з вамі.

Яны на словы майго пакойнага дзеда толькі бразнулі дзвярыма і ўцяклі.

**Цыганы**

Вельмі рэдка, але час ад часу на пачатку 90-х прыязджалі цыганы. Прадавалі розныя рэчы. Раз мая бабуля ад прыгожай маладой цыганкі купіла роўна прыгожы зялёны світар.

**Піва «Dojlidy»**

Гэта наш падляшскі сімвал 90-х. Прысмак на вясковай забаве і пад вясковай крамай. Гэта не той сам як гэты «Зубр» — фальшывы падшыванец, што вырабляюць у Познані, а разліваюць і прадаюць у Беластоку. «Дайліды» варылі ў Беластоку, а пілі ў цэлай Польшчы.

**Пісьмы і паштоўкі**

У 90-х гадах, калі не было эсэмэсак і эмэмэсак, а нават не кожны меў тэлефон, заставалася традыцыйная спрадвечная папяровая форма карэспандэнцыі паміж людзьмі, якія пражывалі далёка ад нас. Пісьмы да нас пісалі цётка Надзя — сястра бацькі — са Стжэгамя, цёця Ольга з Крыма ці дзядзька Жоржык з Масквы — дваюрадная радня бацькі. Паштоўкі прысылалі мае сябры і сяброўкі з часоў белліцэя. Гэта была вельмі файная форма камунікацыі і шкада, што заступілі яе «darmowe minuty do wszystkich» і эсэмэс.

**Юрка БУЙНЮК**

## Забруджанне асяроддзя ў Орлі

У пачатку студзеня г.г. у Польшчы паявілася смогавая трывога. Урад разглядаецца за рашэннем праблемы. Польшча ўстанаўлівае рэкорды па забруджванні паветра. Кліматычныя станцыі паказваюць высокі ўзровень канцэнтрацыі забрудженняў. Інспектары аховы асяроддзя публікуюць чарговыя смогавыя папярэджанні. Асобы пажылыя, хворыя астмай, алергіяй, дзеці, цяжарныя жанчыны павінны асцерагацца працяглага прабывання пад адкрытым небам. На тэрыторыі Арлянскай гміны Ваяводскі цэнтр аховы асяроддзя не займаўся мераннем канцэнтрацыі забруджання паветра.

Найбольшую долю ў забруджванні маюць рэчывы ад працэсаў энергетычнага выкарыстання паліваў. У іх ліку двухвокіс серы, вокіс азоту, вокіс вугляроду ды пылы. Апошнія забруджанні выкідваныя з вытворчых заводаў на тэрыторыі Арлянскай гміны ды Бельскага павета вынікаюць з віду вытворчасці і яе тэхналогіі. У выпадку двухвокісу серы і пылу вышэйшую канцэнтрацыю зафіксавана ў зімовы (абагравальны) сезон. Ведзены на тэрыторыі Бельскага павета маніторынг паказвае, што якасць паветра пастаянна папраўляецца. Атрыманыя вынікі паказваюць пастаянны спад згушчэння двухвокісу серы і пылу. Арлянская гміна знаходзіцца ў абшары пасрэднага забруджання паветра. Гэта вынік рэалізаваных праэкалагічных мер, асабліва ў энергетычным сектары.

На тэрыторыі Арлянскай гміны найбольшай крыніцай забруджання паветра з'яўляецца г.зв. нізкая эмісія (аднасямейнае будаўніцтва), дзе шматлікія аб'екты выводзяць у паветра невялікія колькасці забрудженняў, якія паўстаюць у выніку спальвання энергетычных матэрыялаў у мясцовых печах або вугальных кацельнях. Паколькі каміны невысокія, забруджанні застаюцца на месцы іх выкіду.

Калі комін не чышчаны, сажа выводзіцца ў атмасферу. У Польшчы ёсць каля чатырох тысяч камінароў. У ходзе кожнай ачысткі коміна ў аднасямейным будынку выдаляецца каля васьмі кілаграмаў сажы; у сярэднім у месяц камінары выдаляюць пад дзве тысячы тон пылаў.

Леташняга лета агляды камінаў у Орлі за прыстойную цану выконвалі камінары з Беластока. Ахвотныя на гэтую паслугу былі асабліва адзінокія жанчыны. Аказваецца, што такіх аглядаў патрабуюць страхавачныя фірмы, калі б здарылася няшчасце.

Іншай крыніцай забрудженняў асяроддзя з'яўляецца спальванне гаручага ў сродках транспарту. У 2010-2015 гадах на тэрыторыі Арлянскай гміны не даследавана ўзроўню выхлапу з транспартных сродкаў.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Вестуны вясны

Ужо ў канцы лютага і ў самым пачатку сакавіка гэтага года прыляцелі да нас жураўлі і дзікія гусі. Першых жураўлёў пачуў я пасля поўдня 28 лютага (стаяў сонечны цёплы дзень) у зарасніках на беразе ракі Нараўкі каля Сушчага Барка Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Вёсачка гэтая на ўскраіне Белавежскай пушчы ды з аднаго боку над поймай дзікай ракі Нараўкі. Тут заўсёды мокрыя заліўныя і цяжка даступныя лугі. Жураўлі сваім крыкам напоўнілі ўсё наваколле Новага Ляўкова. Першая чародка дзікіх гусей крыху адпачылі з дарогі на зараз шырока залітых вадой берагах ракі і паляцелі далей на ўсход — у бок Палесся на Беларусі. Некаторыя затрымаліся на Семяноўскім возеры.

Мае аднавяскоўцы з Новага Ляўкова бачылі і чулі галасы першых шпакоў, якія засялілі яшчэ не ўсе свае шпакоўні на дрэвах у вёсцы. Некаторыя з іх пасяліліся ў шпакоўнях у лесе пры дарозе з вёскі ў агратурыстычную гаспадарку „Бора-здруй" ды пры двух вузенькіх дарогах у лесе Плянта. У Плянту тры гады таму завёз самастойна зробленыя домікі для гэтых птушак мой блізкі новаляўкоўскі сусед. Ён любіцель шпакоў і жаваранкаў. Пасадзіў шмат дрэў на сваім прыдамашнім участку зямлі і абгарадзіў яго. У сваім лясочку ў цёплую пару года ён збірае грыбы. Праводзіць свой вольны час, слухаючы пошум ветру ў галінах дрэў ды спеву птушак. Сам ён любіць спяваць. Прыляцелі першыя вестуны вясны і стала больш прыемна і радасна ў сёлах і ў маўклівым зімой лесе.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Нарваўская гавэнда





Адбор да конкурсу «Беларускай гавэнды» ў Нарве гэта адно з прыемнейшых школьных мерапрыемстваў. Вучні сур'ёзна да яго ставяцца таму, што ад іх выступу залежыць ці паедуць на цэнтральны агляд у Гайнаўцы. Апрача таго ў камісіі з трох чалавек сядзіць строгі суддзя — іхняя настаўніца Ніна Абрамюк. Строгі не таму, што карае за памылкі ці дае нізкую ацэнку за выступ. Менавіта самі вучні хочуць даказаць сваёй настаўніцы, што падрыхтоўка, якая часам займае два месяцы, не пайшла на марна. Здаецца, што найбольш гэтым пераняліся наймалодшыя выступоўцы з пачатковай школы. Нават Карнэлька Пшыбароўская, якая ў школе ў Нарве ўпершыню сутыкнулася з беларускай мовай на занятках, на якія сама пажадала хадзіць, выступіла беспамылкова. Адным словам усе яны ўпэўнена прэзентаваліся на «сцэне» гімнастычнай залы. Праблемы з тэкстам? Не было ніводных! Мала таго, дзеткі з пачатковай школы не толькі выдатна памяталі свой сцэнічны маналог да пастаноўкі, але таксама паціхеньку шапталі ролю сяброўкі ці сябра, які ў тым часе дэкламаваў падрыхтаваны твор. Варта дадаць што на школьным адборы да «Беларускай гавэнды» сабралася разнастайная аўдыторыя. З гэтай нагоды бацькі малодшых удзельнікаў кінулі ўсе важныя справы і прыйшлі паслухаць сваіх дзетак. Крыстыяна Паскробку падбадзёрвала двое гімназістаў. Самі яны не вывучаюць беларускай мовы, але ахвотна прыглядаліся выступу, славутага ўжо, сябры. На самой справе Крыстыян стварыў гумарыстычную сцэнку, карыстаючыся адным з апавяданняў ніўскага журналіста з Гародні Віктара Сазонава! Пасля бурлівых абрадаў камісія вырашыла: гран-пры трапіла да Аліўкі Жэпкі і Крыстыяна Паскробкі. Першае месца заваявала Оля Хіліманюк, другое трапіла да Касі Станько, а трэцяе атрымала Карнэлька Пшыбароўская. Віншуем тым больш, што ўжо ведаем, што і ў Гайнаўцы лаўрэаты з Нарвы таксама трымалі ўзровень.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# На «Гавэндзе-2017» перамаглі ветэраны!

Як штогод, цэнтральны этап «Беларускай гавэнды» прайшоў у Гайнаўцы. На XVIII выпуск конкурсу прыехалі вучні Гайнаўскага павету і Міхалова. Як адзначае на сваім фейсбуку арганізатар Ян Карчэўскі, сёлетні ўзровень конкурсу быў высокі і не было слабых выступленняў. Першыя месцы ў катэгорыі пачатковых школ заваявалі Алівія Жэпка з Нарвы і Тамаш Харкевіч з Нараўкі. У ліку гімназістаў перамаглі Крыстыян Паскробка з Нарвы і Дар'я Місяюк з Гайнаўскай белгімназіі. Сярод ліцэістаў найлепшай была Наталля Васько. Як паказала практыка, галоўныя прызы заваявалі ветэраны «гавэнды». Спрацаваў іх шматгадовы досвед і шчырае захапленне беларускай мовай. Усе лаўрэаты вядомыя дэкламатары ў сваіх школах і асяроддзі.

«Беларуская гавэнда» адбылася 3 сакавіка г.г. у Гайнаўскім белліцэі. Мерапрыемства дадаткова ўпрыгожыла выступленне вакальна-музычнай групы «Знічка».

**Зорка**




## УВАГА КОНКУРС! № 11-17

Я заўжды
Гасцей вітаю,
Вопратку іх
Я трымаю.
В......
(У. Мацвеенка)

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 26 сакавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 8-17: каляндар. Узнагароды, новыя кніжкі Міры Лукшы «Гражынка і грак» з аўтографам, выйгралі Вікторыя Гаць, Марлена Лабаноўская, Іаанна Нікіцюк, Мальвіна Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Крыстына Мішчук і Віялета Смалюк з Арэшкава. Віншуем!

Алег Мінкін
## Сакавік

На голлі спяць яшчэ пупышкі,
Але ўжо коміна аловак
Дымком на мяккай сіні піша
Вясны ружовы загаловак.
Я тварам да акна прынік,
Чытаю ў небе: СА-КА-ВІК!

# Толькі 12 лаўрэатаў!

Пра сёлетні спісак лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове, можна сказаць так: гэта сціплая, аднак моцная і надзейная кампанія!

Званне лаўрэата атрымаюць толькі дванаццаць вучняў.

Найбольш, бо аж пяць асоб, з бельскай «тройкі». Беласток, які прадстаўлялі дзве школы: Непублічная школа свсв. Кірылы і Мяфодзія і ПШ № 4, пры значна меншай колькасці вучняў, разам мае таксама пяць лаўрэатаў.

Пра поспех можа таксама гаварыць Гайнаўка (КШ № 3) і Нараўка, ад якіх па адным лаўрэаце. Зараз, калі справіліся з няпростым інтэлектуальным выклікам, яны аўтарытэт для аднагодкаў. Адначасова, як меркавалі арганізатары конкурсу — дасведчаныя настаўнікі беларускай мовы, такое званне падмацуе прэстыж конкурсу.

Удзельнікі сёлетняга конкурсу маглі максімальна набраць 75 балаў, а для таго, каб стаць лаўрэатам, патрэбна 90 працэнтаў ад гэтага ліку.

Як лёгка дадумацца, найлепш справіўся пяцікласнік **Мікола Здрайкоўскі** з беластоцкай «чацвёркі», які атрымаў ажно 74 балы. За ім апынуліся **Анна Радзівончык** з Нараўкі і **Ілья Фіёнік —** яны набралі па 71 бале. Падобны вынік заваявала **Юстына Бакуменка** з праваслаўнай школы ў Беластоку (70 балаў).

Апошнія восем асоб мелі роўна па 68 балаў. Гэта **Марыя Свідэрская, Аляксандра Пранявіцкая, Аляксандра Кудзюк, Малгажата Кубай** — усе з бельскай «тройкі». Такі ж вынік у **Аляксандры Паўлючук** і **Алесі Буткевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, у **Дам'яна Іванюка** з Гайнаўкі і **Юліі Баравік** з ПШ № 4 у Беластоку.

Апошнія шэсць асоб, якія дайшлі да ваяводскага этапу, атрымалі прэстыжнае званне фіналіста. Сярод іх апынуліся: **Юлія Ахрыцюк** з Чыжоў, **Юлія Календа** і **Клаўдзія Навумчук** з бельскай «тройкі», **Наталля Дэмчук, Марыя Пякарская і Клаўдзія Сасна** з ПШ № 4 у Беластоку. Сярод іх не было слабых прац, проста не хапіла 3-5 балаў, каб стаць лаўрэатамі. Таму ўсіх вучняў і іх настаўнікаў віншуем з прыгожым поспехам!

**Зорка,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**



Лаўрэаты і фіналісты з ПШ н-р 4 у Беластоку з настаўніцай Алінай Ваўранюк.



Прадметны конкурс праводзілі настаўнікі: Анна Бжазоўская, Валянціна Бабулевіч, Янка Карчэўскі (старшыня камісіі), Анна Кандрацюк, Яўгенія Таранта

## Вершы Віктара Шведа



### Уцякае памяць бабулі

- Дарагая мая мама,
Хачу каб усе пачулі:
Вельмі кароткую памяць
Мае наша бабуля.

Яна нармальная, ці не,
Калі мяне пытае.
- А хто ж гэта да мяне
У госцікі вітае?

### Турыст у вёсцы

У агратурыстычным доме
Затрымаўся турыст вядомы.
Сказаў: - Адпачыць ён хоча
У гэтым закутку „uroczym".

Гаспадар інфармуе пана:
- Абудзіць вас певень рана:
- Люблю паспаць я даўгавата:
„Наставіць" яго на дзесятую.

*Замкі і палацы Беларусі*

# ПРЫГОЖЫЯ КРАСКІ

Палац у Красках, хоць лічыцца помнікам архітэктуры, быў прададзены прыватнаму прадпрымальніку. Калі новы ўласнік набываў ад дзяржавы сядзібу, ён паабяцаў у хуткім часе падняць палац з руіны. Пасля гэтага будынак будзе цешыць вока ды жыва напамінаць пра архітэктурныя цуды Беларусі. Важна, каб не стаяў і ды не разбураўся.

Палац у Красках гэта вытанчаны прыклад неаготыкі, збудаваны родам Сегліцаў у XIX ст. У пэўным сэнсе ён напамінае мініяцюру Косаўскага замка, помнік прысвечаны Тадэвушу Касцюшку. Менавіта, так разумелі людзі ў эпоху пазітывізму ідэю помніка!



Сядзіба ў Красках знаходзіцца ў маляўнічым кутку Ваўкавыскай зямлі, над самой рэчкай Зяльвянкай. Белы будынак з аздобнымі вежамі, ахінуты трохгектарным паркам, з рэдкімі відамі дрэў. Разам з палацам збудаваныя памяшканні для адміністрацыі, службы і рабочых, якія працавалі пры двары. Словам, тут існавала штосьці ў родзе прэстыжнай зоны, задачай якой было развіццё прамысловасці і адначасова паляпшэння ўмоў жыцця яе працаўнікоў. Сядзіба была мадэрнізавана ў 1905 годзе, таму нават у пазнейшыя гады, калі ў будынку размяшчаліся санаторыі, ён не згубіў прываблівай прыгожасці.

У цэлай гісторыі ёсць файная «дэмакратычная» паслядоўнасць. Назоў сядзібы пайшоў ад вёскі Краскі, што знаходзіцца непадалёк двара. Звычайна, усё адбывалася наадварот, гэта князі, магнаты і шляхта прыдумвалі сваім дварам і маёнткам пышныя і экзатычныя назовы, каб такім чынам адмяжоўвацца ад простай, не толькі ў эстэтычным плане, вёскі. А тут наадварот, просты назоў (краскі: палявыя кветкі) быў прышпілены няпростай будоўлі.

**Зорка**

## Польска-беларуская крыжаванка № 11-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7- 17:**

Асетр, тост, прыступак, Ева, тон, мара, галіна, сініца, клёкат, Арол, каток. Стог, суп, Ака, ранг, асёл, раса, лік, мінак, Аніта, перац, слава, ало.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Мартына Барэвіч, Карнелія Варанцэвіч** з Бабік, **Юстына Астапковіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Зося Варанецкая** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Оля Кардаш** з Нарвы, **Оля Зялінская, Аляксандра Каліноўская, Мартына Лукша** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Figa | | Rękaw / Las | | | | | |
| | | | | Lenek / Skrzat | Kromka | Okulary | |
| Kangur | | | | | | | |
| | | | | | Las | | |
| Fason | | Kot / No | | | | | |
| Krok | | | | | | | |
| | | | | Metr | | | |

# Адам Карвель з Залешан і іншыя

**Пра свайго дзеда Адама ўспамінае Анатоль Карвель з Ялоўкі. У Анатолевых торбах поўных карт, кніжак пра турызм і гісторыю, ёсць яшчэ і лісты, у якіх сям'я Карвеляў просіць на розных мовах знайсці дакументы пра свайго продка Адама Карвеля. Ёсць там і сямейныя здымкі, на якіх дашукацца можна роднага падабенства сямейства і да спадара Анатоля, якога твар мае штосьці з... маладога Чэслава Немэна. Штосьці падобнае, шляхетнае ёсць у тварах людзей Гарадзеншчыны, Сакольшчыны...**

Сярод сямейных здымкаў — фота Сяргея Лазо, малдаваніна, які быў блізкім сябрам Адама Карвеля. Але пра Сяргея Лазо можна знайсці ў энцыклапедыях, вікіпедыях, а Адам Карвель, дзякуй Богу, жывым вярнуўся дахаты. Хоць недурны быў і ў свеце абцёрся, лічыўся пасля ў роднай айчыне малаадукаваным, а той яго сябра Сяргей, з дваранаскага роду, быў вучоны — вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, затым — на фізіка-матэматычным факультэце Імператарскага Маскоўскага ўніверсітэта. Сяргей Лазо — як пра яго пішуць «расійскі камуністычны дзеяч і ваенны», народжаны ў 1894 годзе ў Бесарабіі. Пішуць у Вікіпедыі, што загінуў ён у маі 1920 г., на станцыі Мураўёў-Амурскі, блізу горада Іман. «Быў ён расійскім дваранінам, афіцэрам ваеннага часу Расійскай імператарскай арміі, у перыяд распаду Расійскай імперыі стаў бальшавіцкім военачальнікам і дзяржаўным дзеячам, які браў актыўны ўдзел ва ўсталяванні савецкай улады ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, быў удзельнікам грамадзянскай вайны». Атрад Лазо, як і большасць партызанскіх атрадаў часоў грамадзянскай вайны, быў вельмі каларытным. Складаўся ён, па большай частцы, з бяднейшага пралетарыяту, гэта значыць, з самай, што ні ёсць галыцьбы, а гэтак жа з крымінальнікаў з Чыцінскай турмы, якіх вызвалілі бальшавікі з умовай, што братва пойдзе ваяваць за сусветную рэвалюцыю. Акрамя таго, у атрадзе служылі дзве жанчыны-камісаршы. Адна з іх, былая гімназістка, дачка губернатара Забайкалля, перакананая анархістка. Яна мела зносіны з крымінальнікамі выключна «па фені» і спраўна валодала велізарным маўзерам. Другая — Вольга Грабенка — была ўкраінскай прыгажуняй і сапраўднай бальшавічкай. З ёю ў Сяргея Лазо і здарыўся раман, які завяршыўся шлюбам. Мядовы месяц маладыя правялі, спрабуючы выбрацца з акружэння... У ноч з 4 на 5 красавіка 1920 года Лазо быў арыштаваны японцамі, а ў канцы траўня 1920 г. Лазо і яго паплечнікі Луцкі і Сібірцаў былі вывезены японскімі войскамі з Уладзівастока і перададзены казакам-белагвардзейцам. Згодна з распаўсюджанай версіяй, пасля катаванняў Сяргея Лазо спалілі ў паравознай топцы жыўцом, а Луцкага і Сібірцава спачатку застрэлілі, а затым — спалілі ў мяшках. Пра смерць Лазо і яго таварышаў ужо ў красавіку 1920 году паведаміла японская газета «Japan Chronicle» — па версіі газеты, ён быў расстраляны ва Уладзівастоку, а труп спалены. Праз некалькі месяцаў з'явіліся сцвярджэнні са спасылкай на безназоўнага машыніста, таго, хто бачыў, як на станцыі Усуры японцы перадалі казакам з атрада Бачкарова тры мяшкі, у якіх былі тры чалавекі. Казакі паспрабавалі заштурхаць іх у топку паравоза, але яны супраціўляліся, тады іх расстралялі і мёртвымі засунулі ў топку. Адам Карвель быў упэўнены, што так аддаў сваё жыццё яго сябра малдаванін Сяргей Лазо, рэвалюцыянер, але які паўтараў, што ваюе ад імя расійскага народа

Адам Карвель нарадзіўся 25 снежня 1888 года ў Залешанах (Ялоўскай гміны, Ваўкавыскага павета, Гродзенскага ваяводства). Яго бацькамі былі Юры Карвель і Агата з роду Усіновіч з Юшкавага Груда. Іншыя дзеці Юрыя і Агаты: Міхал (жыў у Гарадку, яго дзеці — Ян, Вера, Вольга), Ёсіп, Іван і дочкі Альжбета, Вольга (выйшла замуж за Юзафа Кавалеўскага), Марыя, Ульяна (выйшла замуж за масквіча і засталася жыць у Маскве).

Адама Карвеля ва ўзросце 12 гадоў пан Павалоцкі забраў на працу ў Астрахані. Там Адам быў рабочым, зарабляў 50 царскіх рублёў у месяц. Калі яму было 16 гадоў, вярнуўся ў Залешаны, пайшоў працаваць у Супрасль, зарабляў 30 царскіх рублёў. На чыгунцы ў Свіслачы яму за работу давалі 40 рублёў. У 1910 годзе быў ужо дарослы — было яму 18 гадоў. Узялі яго ў армію — у Першы конны заамурскі полк у горадзе Забайкальск. Неўзабаве перавялі яго разам з войскам у горад Харбін у Маньчжурыі. Бываў таксама ў такіх гарадах як Маньчжурыя, Сацыгар, Гайлар, Харбін, Гірын і Чун-Чун. Іхні полк стаяў таксама ў гарадах Чыта (Амурская вобласць), Іркуцк, Благавешчанск (Хабараўскі край), Барз'я, Тулун — блізка мангольскай мяжы. Перасланлі Адам Карвеля на мангольска-расійскую мяжу ў горад Тулун, дзе год быў пагранічнікам.



■ Адам Карвель (24.12.1888-25.01.1986) у Забайкальску ў 1910 г.



Фота з архіва сям'і Карвеляў

■ Вікенцій Геложа (бацька Веры Карвель), Тэафіля Геложа з Верыным братам Іванам Геложам (нар. 1915 г. у Смаленску) і пані з Бераставіцы. 1915 г.

Пасля выбуху І сусветнай вайны разам з войскам перакінулі Адама Карвеля на Украіну ў ваколіцы Жытоміра, пасля ў гарады Оўруч, Сарны, Цярнопаль, Роўна, Луцк, Львоў. У 1914 г. перавага нямецкіх і аўстрыйска-вянгерскіх войск была вялікая, і расійская армія стала адступаць. Пасля сітуацыя адмянілася, і страты пацярпелі таксама немцы. Па абодвух баках было шмат забітых і раненых салдат розных нацыянальнасцей. Адам Карвель быў паранены двойчы — у мясцовасці Брады ва Украіне, першы раз быў ранены ў рэбры, другі — у нogі. Перад выбухам рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся да свае сям'і, якая трапіла ў Краснаярск на Сібіры. Там жылі цяпер яго сёстры Вольга, Альжбета і Марыя — у Лакіне і Межаве (Бальшая Марта). Стаў ён на службу ў чыгуначную міліцыю, а пасля ў гарадскую міліцыю ў Краснаярску, дзе камандзірам чыгуначнай міліцыі быў Зуеў, а яго намеснікам Курчэнка. Служыў таксама на выездах у гарадах Барнаул (Алтайскі край), Уфа (Башкірыя), Омск.

Адам Карвель расказваў сям'і, што бачыў у 1917 г. Юзафа Пілсудскага ў Жытоміры. Абмяняліся яны ганаровым вайсковым прывітаннем, пасля Пілсудскі спытаўся: «Ці маеце што есці?», а Адам Карвель адказаў: «Усё ёсць, вам таксама можам даць». Вядома, што быў голад і бяда, людзі галадалі. Адам Карвель бачыў Пілсудскага яшчэ ў Роўным, Луцку і Львове.

Вельмі часта вярталіся да яго ўспаміны з часу службы ў Краснаярску, дзе быў з ім малдаванін Сяргей Лазо, які лічыцца адным з бальшых, харызматычных герояў рэвалюцыі, і са слязамі на вачах Адам перажываў зноў і зноў ягоную страшную смерць у палаючай топцы паравоза. Успамінаў Адам і тое, як разам з Сяргеем Лазо былі ў Краснаярску ахоўнікамі Уладзіміра Леніна і Надзеі Крупскай...

Адама Карвеля, калі вяртаўся ў новую Польшчу ў свой кінуты дом у 1922 годзе, арыштавалі на мяжы па прычыне расійскіх дакументаў. Неяк даказаў, што «ён паляк», пусцілі яго на бацькаўшчыну. Застаў пусты голы дом — бацькі памерлі за час, калі ён скітаўся па Расіі. Адам стаў абжывацца ў апустошанай хаце. Ажаніўся з Надзеяй Мелька з Ялоўкі. Працаваў на жончынай пасажнай зямлі. У 1925 г. нарадзіўся ім сын Аляксей. Калі ўвайшлі немцы, Адама і Надзею Карвеляў арыштавала нямецкая жандармерыя якая стаяла ў Ялоўцы, катавалі іх, каб прызналіся што з'яўляюцца савецкімі шпіёнамі. Іх сямнаццацігадовага сына Аляксея забралі ў Ваўкавыск разам з Вацлавам Мелькам, Тодарам Яблонскім, Мікалаем Каліцкім ды Мікалаем і Барысом Лясотамі — у 1942 г. Трымалі іх да 1944 г., дзе білі іх і катавалі — рабілі яны там у лагеры прымусовай працы. У час савецкага наступлення вязням далі пропускі і пайшлі яны дадому. Па дарозе ў вёсцы Занькі (каля Свіслачы) жыхары частавалі ежай вяртаючыхся з лагера, запрашалі да сябе дахаты. Пасля гасціны ў чужых рушылі яны далей на Свіслач, у бок Ялоўкі. Ялоўка была знішчана, пабудовы спаленыя, частка жыхароў яўрэйскай, беларускай і польскай нацыянальнасці была выбіта. Аляксей Карвель дабраўся да бацькоў, якія ўжо страцілі надзею на спатканне з сынам. Застаўся з імі ў вёсцы. Сталі яны адбудоўваць гаспадарку, жыллё. Дзяржаўную мяжу адсунулі ад Ялоўкі на два кіламетры ў 1948 годзе. Частка зямель Адама і Надзеі Карвеляў засталася на беларускім баку. На гэтых аўстаўшыхся кавалачках поля, лугу і лесу цяжка было гаспадарыць...

Бацька Анатоля Карвеля Аляксей (нар. у 1925 г.) ажаніўся з Верай (нар. у 1932 г.) з роду Геложа (бацькі Веры — Вінцук і Тэафіля). Дзеці Аляксея і Веры — Ніна (нар. у 1953 г.), Мікалай (нар. у 1956 г.), Анатоль (нар. у 1958 г.), Аляксандр (нар. у 1960 г.).

Анатоль Карвель шукае сваіх сваякоў, якіх у розныя сітуацыі загнала ваеннае ліхалецце, беларусаў, якія паклалі свае галовы за не свае справы.

Чытаем: Книга памяти жертв политических репрессий Красноярского края. Том 14 (Раскулаченные); Списки раскулаченных в Красноярском крае, Большемуртинский район. **Карвель Иван** Осипович. Проживал в д. Лакино В.-Бродовского с/с Б.-Муртинского р-на Красноярского округа. Состав семьи: жена Анастасия Степановна, сын Иван. Лишен избирательных прав в 1927, подлежал высылке с семьей. **Сын Карвель Викентий Иванович;** 1903 г. род.; в с. Лакино Б.-Муртинской вол. Красноярского уезда Енисейской губ. *В 1922-1924 нелегальное пребывание в Польше.* Рабочий «Дорстроя». Арестован 13.11.1937. Обвинение в шпионаже. Приговорен 21.12.1937 Комиссией НКВД и прокурором СССР к ВМН. Расстрелян 09.01.1938 в г. Красноярске. Реабилитирован 30.04.1958 ВТ СибВО (АРУ ФСБ России по Красноярскому краю, д. П-9466; Архивный отдел администрации Большемуртинского р-на, ф. 34, оп. 1, д. 162).

І Геложы: **Геложа Анна Степановна** (1910); дата рождения: 1910 г., место рождения: Канского уезда Енисейской губ.; пол: женщина; социальное происхождение: из крестьян; образование: малограмотная; профессия / место работы: занималась хлебопашеством; место проживания: Канского уезда Енисейской губ.; дата ареста: 29 ноября 1930 г.; обвинение: ст. 58, п. 9, 58, п. 10, 58, п. 11 УК РСФСР; осуждение: 19 декабря 1930 г.; осудивший орган: ОГПУ; приговор: Дело прекращено по реабилитирующим обстоятельствам; Архивное дело: Архив УФСБ КК, дело П-16656. Источники данных: БД „Жертвы политического террора в СССР"; Книга памяти Красноярского края; БД Красноярского общества „Мемориал". **Геложа Иосиф Степанович** (1907); дата рождения: 1907 г.; место рождения: Гродненской губ.; пол: мужчина; социальное происхождение: из крестьян; образование: малограмотный; профессия / место работы: Занимался хлебопашеством; место проживания: Канском округе ВСК; дата ареста: 29 ноября 1930 г.; обвинение: ст. 58, п. 9, 58, п. 10, 58, п. 11 УК РСФСР; осуждение: 19 декабря 1930 г.; осудивший орган: ОГПУ; приговор: Дело прекращено по реабилитирующим обстоятельствам; Архивное дело: Архив УФСБ КК, дело П-16656; Источники данных: БД „Жертвы политического террора в СССР"; Книга памяти Красноярского края; БД Красноярского общества „Мемориал". **Геложа Николай Степанович** (1914); дата рождения: 1914 г.; место рождения: Канского уезда Енисейской губ.; пол: мужчина; социальное происхождение: из крестьян; образование: малограмотный; профессия / место работы: Занимался хлебопашеством; место проживания: Канского уезда Енисейской губ.; дата ареста: 29 ноября 1930 г.; обвинение: ст. 58, п. 9, 58, п. 10, 58, п. 11 УК РСФСР; осуждение: 17 декабря 1930 г.; осудивший орган: ОГПУ; приговор: Дело прекращено по реабилитирующим обстоятельствам; Архивное дело: Архив УФСБ КК, дело П-16656. Источники данных: БД „Жертвы политического террора в СССР"; Книга памяти Красноярского края; БД Красноярского общества „Мемориал". **Геложа Степан Антонович** (1873); дата рождения: 1873 г.; место рождения: Гродненской губ.; пол: мужчина; социальное происхождение: из крестьян; образование: малограмотный; профессия / место работы: мельник; место проживания: дер. Вершинка Иланского р-на Канского окр. ВСК; дата расстрела: 20 марта 1931 г.; дата смерти: 20.3.1931; место смерти: в г. Красноярске; дата ареста: 29 ноября 1930 г.; обвинение: ст. 58, п. 9, 58, п. 10, 58, п. 11 УК РСФСР; осуждение: 2 марта 1931 г.; осудивший орган: тройкой при ПП ОГПУ ВСК; приговор: Высшая мера наказания; ВМН; дата реабилитации: 20 сентября 1989 г.; реабилитирующий орган: Прокуратура Красноярского края (КК); Архивное дело: П-16656 Источники данных: БД „Жертвы политического террора в СССР"; Книга памяти Красноярского края; БД Красноярского общества „Мемориал"...

Колькі іх, з вялікакняскімі ліцьвінскімі прозвішчамі, загінула, а колькі выжыла-вытрымала, і жывуць іхнія патомкі па ўсёй Расіі, нават не ведаючы, адкуль іх род.

**Міра ЛУКША**

Размова з Уладзімірам Сідаруком, жыхарам Кузавы, шматгадовым супрацоўнікам „Нівы”.

# Чаромхаўскія будні

**— Вы пішаце пра многія справы з Чаромхі і наваколля, але я хачу распытаць Вас пра яшчэ больш. Для прыкладу, ад чыгуначнай станцыі ў Чаромсе па дарозе ў Кузаву ёсць вуліца Wąskotorowa. Ці тут была калісь вузкакалейка?**

— Была. Тут, дзе разыходзяцца дарогі ў Кузаву і Ставішчы, стаяла калісь вадакачка. Па дарозе, якая сюды вядзе ад станцыі, пралягаў калісь прамы пуць Брэст — Беласток. Па тым пуці прывозілі вагоны з палівам, з вугальным брыкетам, які перагружалі на самазвальныя вагaнеткі, што ездзілі па вузкакалейцы ад галоўнага пуці да вадакачкі; калі я стаў хадзіць у школу ў 1947 годзе, то мы яшчэ тымі ваганеткамі пад'язджалі. Той брыкет быў патрэбны для запуску ў рух помпаў, што падавалі ваду на вадакачку. Недалёка быў стаў, на рэчцы Нурэц, якая выплывае з-пад Ставішч, з якога адыходзіў водаправод. Да вайны, калі разбамбілі чыгуначную станцыю ў Чаромсе, асноўная вадакачка стаяла на пуцях. А тут стаяла такая запасная, драўляная. Пасля вайны паставілі пры ёй мураваны дом для таго рабочага, што яе абслугоўваў; той дом стаіць і зараз. У 1952 або ў 1953 годзе пабудавалі вялікую вадакачку і тую запасную, драўляную, знеслі. Калі яе ліквідавалі, то зліквідавалі і стаў, з якога раней набіралі ваду. Той стаў быў пад аховай — нельга было ў ім ні купацца, ні рыбу лавіць. І калі той стаў разгачвалі, то наехала шмат чыгуначнага начальства і яны мяшкамі рыбу цягалі — і ментузы, і шчупакі.

**— Мяне цікавіць тапаграфія чаромхаўскай чыгункі. Вось лінія ў напрамку Бельска не выходзіць прама ў бок Кляшчэль, толькі мае такі выгіб у бок Кузавы. Ці так было спачатку?**

— Тут, у нас, у ваенны час, зараз каля Кузавы, недалёка паравознага дэпо, быў трохвугольнік для заварочвання паравозаў. У Седльцах ці ў Беластоку былі кругі, куды паравоз заязджаў і яго абарочвалі на 180°. А ў нас, у Чаромсе, таго не было, толькі трохвугольнік. У 1980-х гадах той трохвугольнік зліквідавалі і цяпер следу па ім няма; на яго месцы пасадзілі лес. Чаромха змянілася і, напрыклад, маладое пакаленне не мае ўяўлення, як калісь было. І вось лінія ў Беласток паварочвала перад тым трохвугольнікам і выходзіла пад віядук. А тут, яшчэ бліжэй станцыі, была пратока, абкладзеная каменнымі пліткамі, па якой спускалі адходы з паравознага дэпо. Раней каля таго раўчака была лазня для чыгуначнікаў, такая руская баня з душам, куды пасля вайны ўсе хадзілі мыцца. Тут было яшчэ больш будынкаў з царскага часу, але яны не засталіся.

**— Вы сказалі, што пад'язджалі вузкакалейкай. А калі па нармальнай чыгунцы ездзілі цягнікі, то не чапляліся хлапчукі каб пад'ехаць? Бо ж у даўніх цягніках было поўна спакушальных ступенек і ручак...**

— Такога не бывала. Але як я ў 1954 годзе пайшоў у Бельск у школу, то ў Падбеллі ў той час не было прыпынку; прыпынкі былі ў Рыгораўцах і Леўках. А з Дубяжына, вялікай вёскі, ездзілі і ў рашарню (льнокамбінат), і ў школы, і на работу. І калі даязджалі да Падбелля, адразу за Казламі, зрывалі тармазы, поезд спыняўся і тады ўсе гурмам выскаквалі. То тады прынялі такія меры, што штодзённа на цягніках ездзілі сакісты (ад абрэвіятуры SOK — Służba Ochrony Kolei) і пільнавалі. Запамятаўся мне адзін эпізод. Сакісты ездзілі на прычэпленым да апошняга вагона бранкардзе (асобны вагон для чыгуначнага персаналу, які, у прынцыпе, прычаплялі да таварных цягнікоў). І калі хто сарваў тормаз, то сакісты кідаліся за ім. Аднойчы адзін хлапчук сарваў тормаз і кінуўся з поезда, але ўваліўся ў снег і заграз там. Сакісты за ім, але ён, малады, выкарабкаўся і ўцёк; ды і яны не вельмі хацелі ганяцца.

Калісь не было такіх пульманаў, як сёння, але вагоны, якія называлі свінскасобовымі. Палова вагона была агульная, а ў другой палове тры-чатыры купэ. Быў такі Вашчук Віця, які ездзіў у музычную школу ў Беласток, з гармонікам. І ад Падбелля аж да Бельска то была ў такім вагоне забава, бо ў рашарню ездзіла шмат дзяўчат. Але гэта было пазней, калі ўжо ў Падбеллі быў прыпынак. А той прыпынак выхадайнічаў бацюшка, Яўгеній Навумаў называўся. Ён у час вайны сядзеў у канцлагеры, у якім сядзеў і пазнейшы польскі прэм'ер-міністр Юзаф Цыранкевіч; яны зналіся. І калі Навумаў прыйшоў на Падбелянскі прыход, то паехаў у Варшаву, да прэм'ер-міністра Цыранкевіча і выхадайнічаў пабудову прыпынку ў Падбеллі.



**— У 1970-х гадах вялікай папулярнасцю ў польскай публікі карыстаўся тэлесерыял „Czterdziestolatek”, а ў ім адна з гераінь, якой ролю іграла Ірэна Квяткоўская, заяўляла, што яна жанчына працавітая і ніякай працы не апасаецца. Вы, здаецца, таксама не з адной працоўнай печкі хлеб елі...**

— Першай маёй працай была праца ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве — з 20 красавіка 1959 года працаваў я інструктарам гайнаўскага аддзела БГКТ. Мяне на працу прымаў старшыня Таварыства, а быў ім тады Уладзімір Станкевіч, а сакратарам Таварыства быў Віктар Швед. У гайнаўскім аддзеле было шмат гурткоў і іх арганізацыяй займаўся Васіль Дзун, а мне выпала займацца наглядам за працай самадзейных калектываў. Неўзабаве, улетку, у Супраслі аддзел культуры Ваяводскай рады ладзіў культурна-асветны семінар для беларускіх настаўнікаў; выкладчыкам там быў Аляксандр Баршчэўскі, прыязджаў таксама Віктар Швед. Я там пазнаёміўся са шматлікімі настаўнікамі.

У Таварыстве працаваў я няпоўны год, бо ўжо ў снежні 1959 года стаў на працу ў Гарадской управе Гайнаўкі, вёў вайсковыя справы ў тамашнім загсе. Быў я таксама ў Павятовай управе ЗМВ (Związek Młodzieży Wiejskiej — Саюз сялянскай моладзі), якою кіраваў Кастусь Ляшчынскі, які пасля стаў старшынёй Гарадской рады Гайнаўкі. У Гарадской управе я працаваў са снежня 1959 года да лістапада 1962 года, калі перайшоў на працу ў кінаперасоўцы. Я быў фанатам кіно, любіў фільмы, рэгулярна купляў часопісы „Film” і „Ekran”. І калі прыехала кінаперасоўка ў Дабрываду, то я — гайда — і туды паехаў.

**— А калі Вы пабачылі першы фільм? Можа рускія паказвалі?..**

— Першыя фільмы кузаўцы пабачылі ў Вераску, трыста метраў ад нашай хаты, там быў савецкі ваенны гарадок; былі там склады абгароджаныя калючым дротам, там праходзіла вайсковае абучэнне. А на хваіне вешалі прасцірадла і там дэманстравалі фільмы. А пасля вайны ў Чаромху прыязджала польскае вайсковае кіно; на станцыі была павець, у якой паказвалі тады фільмы. А пасля з чыгуначнай цэнтральнай дырэкцыі прыязджаў вагон-святліца і ў тым вагоне дэманстравалі фільмы; вагон, які прыязджаў раз у месяц, мог памясціць сорак-пяцьдзясят гледачоў. Я наведваў кожны фільм; кінамеханік быў з Вулькі-Нурэцкай. Той вагон ездзіў па станцыях, між іншым і ў Рыгораўцах спыняўся дзеля паказу фільмаў.



Дом працаўніка вадакачкі

У 1959 годзе ў чаромхаўскай насычальні ладзілі сустрэчу з Янам Анацікам і Аляксандрам Амільяновічам. Я тады стаў пісаць допісы ў „Ніву”. Заехаў у рэдакцыю, а Амільяновіч кажа: „Валодзька, хочаш пагаварыць з Анацікам?” „З якім?”, пытаю. „З «Валодзем»” — гэта быў яго псеўданім. А ў нас дома ніхто нават не ведаў, што ён жыве. Амільяновіч адразу за трубку: „Таварыш палкоўнік, тут Сідарука сын, хочаце можа пагаварыць?”. Так адбылася мая першая размова з Анацікам.

**— Ваша сям'я ведала Анаціка?**

— То ж ён у нашай хаце траіх немцаў *укатрупіў*. Ён дзейнічаў у дэсанце „Дальныя”, пра гэта Амільяновіч пісаў калісь у „Ніве”. І тады Анацік запрапанаваў сустрэчу ў Чаромсе. Я ўзяўся за арганізацыю сустрэчы. Партсакратаром у насычальні быў ставішчук Сафрон, які да ініцыятывы паставіўся з энтузіязмам. Сустрэча адбылася 31 студзеня 1959 года, а народу сабралася столькі, што ў святліцы не памесціліся, то вокны з рамамі павывальвалі — кожны лез пабачыць партызана. Спатканне мела шырокі водгалас. Павятовы камітэт партыі ў Бельску нават угнявіўся, што першая сустрэча адбылася ў Чаромсе, калі галоўная дзейнасць Анацікавага дэсанта праходзіла каля Шашыл, што ў Бельскім павеце. А нашу сустрэчу паказвала і кінахроніка, дзе паказалі маю маму з калаўроткам і бацьку з шавецкімі прыладамі. А пасля ў насычальні сарганізавалі пастаяннае кіно; спярша білеты былі па 60 грошаў, пасля па злот дваццаць, пасля па два злоты — фільмы паказвалі па ўік-эндах.

**— Вы згадалі пра паказ фільма ў Дабрывадзе; там таксама дэманстравалі фільмы?**

Я заехаў у Дабрываду, калі там была кінаперасоўка. Я ў 1962 годзе ехаў акурат з Гайнаўкі з работы. Зайшоў, завязалася гутарка з персаналам кінаперасоўкі, задушэўная. Яны кажуць мне, што ў іх няма кіраўніка, падкінулі мне задуму перайсці на працу кіраўніка кінаперасоўкі. Ну то я напісаў заяву, заехаў у Ваяводскае праўленне кіно ў Беласток, там акрапілі справу. Гэта было ў канцы кастрычніка 1962 года, я засцярог, што хачу працаваць толькі на сваёй тэрыторыі, на Гайнаўшчыне. У ваяводстве было 18 кінаперасовачных каманд, адна палова працавала бесперапынна з першага чысла месяца да 23-га, а другая з 8-га да канца месяца. Мая каманда была ў першай групе, 24-га чысла з'язджалі мы ў Беласток, я здаваў у праўленне ўсю бухгалтарскую дакументацыю, кінамеханік здаваў ролікі, шафёр разлічваў самаход. У кінаперасоўцы я працаваў з лістапада 1962 года да чэрвеня 1969 года.

Калі рушыла Семяноўка, то і я туды. У нас, у Кузаве, на дзевяноста сем'яў, можа толькі пяць займаліся гаспадараннем, а апошнія працавалі на чыгунцы. Мая сястра працавала на станцыі ў Чаромсе і стала афармляць мне ўладкаванне на працу ў Семяноўцы; прынялі мяне ў гандлёвую службу. Было крыху складанасцей з гэтым прыёмам. З Гданьска адпраўлялі водаўстойлівыя суднафарбы ў Савецкі Саюз, а тут мясцовыя дзялкі рабілі так, каб тыя фарбы сабе пацягнуць. Рабілі дэфекты ва ўмяшчальніках, спісвалі шкодавыя пратаколы, плаціла чыгунка — уся Чаромха памалявала платы гэтымі фарбамі. А я крышку раскрываў гэты інтарэс, з гэтага і цяжкасці. Аднак я раней быў званіў Анацыку і цяжкасці развеяліся.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Згадка

# Варшава, якую ведаў Сакрат Яновіч

Шукаючы звесткі па архівах і розных старых выданнях пра беларусаў у Варшаве першай паловы XX стагоддзя, натрапіў я і на артыкул Сакрата Яновіча „Мая Варшава", які быў апублікаваны ў беластоцкім „Беларускім календары" на 1975 год. Уважліва прачытаў яго. Матэрыял невялікі, ён змясціўся на дзвюх старонках. У ім аўтар нагадвае, што Варшава з'яўляецца не толькі сталіцай Польшчы, але і жывой часткай гісторыі беларускай культуры. Далей Сакрат Яновіч апісваў тое, што бачыў у Варшаве, што прыгадваў аднойчы, калі крочыў яе вуліцамі раніцай. А прыгадваліся і ўяўляліся і Марыля Верашчака, і Міцкевіч з Манюшкам, і Карловіч, які «на хаду чытае „Дудку беларускую"». Ян Карловіч прыехаў з Кракава, з друкарні Анчыцавай... І „яснявяльможная пані Арэшчыха, якая за адным з вокан станіслаўскай камяніцы" адпісвае Багушэвічу, які, адзінокі са сваёй беларушчынай, шукае духоўнай апоры ў вядомай польскай патрыёткі. „Патрыёт аднаго народа безумоўна падтрымае патрыёта другога народа", — сцвярджаў спадар Яновіч.

Прыгадваў у „Маёй Варшаве" Сакрат Яновіч і Федароўскага — „паляка з Кашубаў", які на схіле гадоў там рыхтаваў да друку працу свайго жыцця „Люд беларускі". Не абмінуў аўтар і Тарашкевіча, і Карскага, і майго земляка са Слоніма паэта Гальяша Леўчыка: „Смерць беларускага паэта Ільі Ляўковіча-Леўчыка, які загінуў у час Варшаўскага паўстання, узвышаецца сімвалам. Ляўковіч загінуў у трагічным горадзе напярэдадні новага, калі ў Любліне ўжо адбываўся хрэст на свабоду...".

Сакрат Яновіч меў рацыю, бо добра ведаў пра лёс тых беларусаў, якія пэўны час жылі ў Варшаве ў першай палове (да 1939 года) XX стагоддзя. Ён мог напісаць добрую і цікавую кнігу пра варшаўскі перыяд жыцця і дзейнасці беларусаў у 1900-1939 гадах, але гэтага ён рабіць не хацеў. Ён пры сустрэчах раіў мне збіраць матэрыялы і працаваць над гэтай цікавай і маладаследаванай тэмай. Я пагадзіўся. Таму ў пачатку 2011 года звярнуўся да спадара Сакрата, каб ён даў дазвол на тое, каб замест прадмовы да маёй будучай кнігі „Беларусы ў Варшаве, 1900-1939 гады", паставіць яго артыкул з „Беларускага календара" „Мая Варшава".



Віктар Швед у беларускім клубе БГКТ у Варшаве пры вуліцы Сенатарскай

26 сакавіка 2011 года з Крынак я атрымаў ліст ад Сакрата Яновіча. У гэтым лісце ён пісаў: „Паважаны Сяргей! Атрымаў твой ліст і галава мне разбалелася. Тэкст „Мая Варшава" быў вельмі літаратурным, без аніякіх даследаванняў. Свайго роду эсэ. Лічыў, што нехта пацікавіцца „беларускай Варшаваю". Аднак не было каму. Адрэдагуй па-свойму.

Варшаўскія беларусы — усе з пасляваеннай навалачы. Варшава ў гадах 1900-1939 гадах была правінцыя, расейска-жыдоўскім горадам, які расквітнеў толькі дзякуючы царскаму прэзідэнту Сакрату Старынкевічу, які пабудаваў водаправодную сетку ды акуратную каналізацыю; горад перастаў смярдзець ды чэрпаць ваду з калодзежаў у панадворках.

Цяпер жыве ў Варшаве немалая калонія беларусцаў, але ўсе яны мужыцкага роду, універсітэцкая „образованщина". Я падам колькі адрасаў, але сумняваюся, ці гэта што дапаможа ў пошуках. Беларусы калісьці перліся ў Вільню, у імперскі Пецярбург, а не ў „захолустую" жыдоўскую Варшаўку, у якой, каб пачуць польскую мову, трэба было йсці ў касцёл або тэатр. Вуліца шчабятала па-руску. Польшча нараджалася ў Кракаве, у Галіччыне, у нямецкамоўнай Познані. Варшавякі лічыліся „кацапамі" або маскалямі, як пісаў Вітас — першы прэм'ер Польшчы, у сваіх успамінах. Ат, многа гаварыць...

Хто яшчэ „з Літвы" асеў жыць у тадышняй Варшаве? Пераездам бывалі пэўна многія. У міжваеннай Варшаве працавалі служанкамі ў жыдоўскіх дамах нават мае цёткі, якія вярнуліся з галотнай Расеі. Яны давалі рады гаварыць па-руску, польская мова была ім непатрэбная.

Найбольш надзеі ў мяне на Лену Глагоўскую, шукальніцу беларускіх слядоў. Можа Эльжбета Смулка, бо з беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта наўрад ці здольныя нешта сэнсоўнае зрабіць. Можа Туронак...

З паклонам — Сакрат.

P.S. Блага з маім здароўем. Жыву на ўколах інсуліну, тры ў дзень, бо моцны дыябет plus інсульт. Аптэка таблетак. Мне 75".

Вось такі быў ліст ад Сакрата Яновіча 6 гадоў таму. А тры гады, як яго няма сярод нас. Пераглядаючы свае хатнія архівы з матэрыяламі па гісторыі беларускага руху ў Варшаве ў першай палове XX стагоддзя, трапіў менавіта на гэты ліст і на яго артыкул „Мая Варшава". Сакрат Яновіч, як і многія беларусы XX стагоддзя, любіў Варшаву. Невыпадкова ён называў яе мая Варшава: „Мая Варшава — гэта яшчэ плюс тое, што дала яна маёй роднай культуры і мінуласці, багацейшая!..".

Сяргей ЧЫГРЫН




Канец лютага і пачатак сакавіка ў Беларусі адзначаўся такім усплёскам грамадзянскай актыўнасці, які не назіраўся гадоў шэсць — ад „маўклівых акцый" лета 2011 года. Тады людзі, абураныя чарговым правалам у эканамічнай палітыцы ўлад, выходзілі на цэнтральныя вуліцы буйных гарадоў і пачыналі моўчкі пляскаць у далоні, выражаючы свой пратэст. Даволі хутка тыя акцыі былі разагнаныя, а лукашэнкаўскія ўлады яшчэ больш „заціснулі гайкі", прыняўшы адпаведныя законы, якія караюць не толькі за масавае дзеянне, але і нядзеянне, калі яно ёсць выразам меркавання.

Падзеі на Украіне на некалькі гадоў адвярнулі многіх у Беларусі ад масавых акцый, бо людзі былі напалоханы пралітай крывёй і гэты страх напоўніцу выкарыстала ўлада, далдонячы пра беларускую стабільнасць і пазіцыянуючы яе як свой здабытак.

Такім чынам апошнія гады, на першы погляд, ніяк не спрыялі росту пачуцця годнасці і адказнасці за лёс сваёй краіны ў беларусаў. Хутчэй наадварот — людзі ўсё больш разумелі, што ў Беларусі просты чалавек — гэта ніхто і зваць яго ніяк. Такое меркаванне, зразумела, на карысць лукашэнкаўскай уладзе, якая ўжо адарвалася ад народа, пачаўшы называць яго „народцам". І таму для яе было натуральным у чарговы раз залезці ў кішэню збяднелага люду, увёўшы так званы збор за дармаедства, калі беспрацоўныя павінны плаціць дзяржаве. А таксама ніякім чынам не зважаць на тое, што для свядомай часткі беларускага грамадства ёсць святым — урочышча Курапаты пад Мінскам, дзе ў 1930-1940 гады сталінскія палачы забівалі „класавых ворагаў".

У выніку ў лютым на тэрыторыі ля Курапатаў, якая цішком была выведзена з ахоўнай зоны, мела пачацца будаўніцтва нейкага бізнес-цэнтра. Аднак людзі, абураныя такім нахабствам улад, прыйшлі на будаўнічую пляцоўку, каб не дапусціць якіх-кольвечы прац.

Пару тыдняў трывала супрацьстаянне грамадскасці і ўлад. Грамадзяне прыходзілі, мітынгавалі, дзяжурылі ўночы, рознымі спосабамі спынялі будаўнічую тэхніку. Галоўным вінаватым, канешне, сябе пачуваў бізнесовец, які набыў пляцоўку пад будоўлю, не разумеючы сітуацыі. Менавіта ён і абраў адзіна слушнае выйсце — нягледзячы на запэўніванні чыноўнікаў, што мае права там будаваць, прадпрымальнік аддаў загад спыніць так і не распачатае будаўніцтва.

Тыя, хто называе сябе абаронцамі Курапатаў, называюць такі вынік сваёй перамогай. І гэта абсалютна так, калі не зважаць на такую дэталь — гэта адна з адзінкавых перамог усёй дэмакратычнай грамадскасці Беларусі. Больш таго — адзіная значная перамога за апошнія два дзясяткі гадоў. Таму гэта перамога належыць усяму беларускаму народу.

На даны момант у інтэрнэце існуе сайт „Ахвяруй на лагер абароны Курапатаў", які месяцца ў інтэрнэце па адрасе http://kurapaty.by. На ім распавядаецца, як кожны жадаючы можа грашыма дапамагчы тым, хто не даў апаскудзіць народную памяць і народны мемарыял. „Зрабі ўнёсак у змаганне з глухой і карумпаванай уладай. Толькі мы самі можам змяніць Беларусь да лепшага!" — заклікаюць абаронцы Курапатаў і запэўніваюць, што калі пытанне забудовы Курапатаў будзе вырашана, то сродкі, якія застануцца, пойдуць на кампанію па ўсталёўцы там мемарыялу ці іншую мэту, абраную ахвярадаўцамі і грамадскасцю.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара

Чалавек які вярнуў беларусам гістарычныя замкі



# 75 гадоў з дня нараджэння Міхася Ткачова

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог Міхась Ткачоў нарадзіўся 10 сакавіка 1942 г. у Мсціславе ў настаўніцкай сям'і Алеся Рыгоравіча і Даміцікі Сямёнаўны Ткачовых. Бацька ў тым жа годзе загінуў на фронце пад Ленінградам і пасля вайны Міхася выхоўваў айчым. Пачатковую адукацыю атрымаў у Мсціславе ў сямігодцы № 3. У 1959 г. паступіў на гістарычны факультэт БДУ. Першы курс, аднак, давучыўся завочна, бо паводле савецкіх законаў мусіў вярнуцца ў Мсціслаў, у калгас імя Варашылава, працаваць паляводам. Студэнцкія гады ўмацавалі нацыянальнае пачуццё Міхася Ткачова. Пасля заканчэння вучобы і размеркавання ў 1964 г. амаль пяць гадоў настаўнічаў у Жодзіне, быў завучам. Пры падтрымцы Пятра Глебкі паступіў у 1968 г. у аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР. Там узяўся за распрацоўку тэмы „Ваеннае дойлідства Беларусі XII-XVII ст." З 1969 г. вёў раскопкі замкаў і ўмацаванняў у Навагрудку, Гародні, Лідзе, Койданаве, Крэве, Міры, Геранёнах, Мядзеле, Лепелі, Іказні, Камянцу, у іншых мясцінах. У 1972 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, на аснове якой былі выдадзены кнігі „Абарончыя збудаванні зямель Беларусі" (1978), а таксама „Замкі Беларусі" (1977).

У 1978 г. прыняў запрашэнне з Гародні на працу ва ўніверсітэт. Спачатку працаваў выкладчыкам, у 1983-1985 гг. — загадчык кафедры. Вазіў студэнтаў у розныя гарады Беларусі на раскопкі. У 1987 г. вёў раскопкі Якушоўкі — родавага гнязда Каліноўскіх. Абараніў доктарскую дысертацыю па тэме „Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі XIV-XVIII ст." У гарадзенскі перыяд Ткачоў меў некалькі сутыкненняў з мясцовым кіраўніцтвам, выкліканых перашкодамі, якія чыніў навуковец знішчэнню старажытнай гарадской забудовы. Справы даходзілі да Савета Міністраў СССР, Ткачова спрабавалі выключыць з КПСС і прыцягнуць да крымінальнай адказнасці „за клевету на органы Советской власти", „за ввод в заблуждение председателя Совета Министров СССР". Аднак гісторык урэшце перамог.

Напрыканцы 1980-х гг. Ткачоў уключыўся ў актыўную грамадска-палітычную дзейнасць. Стаў кіраўніком легендарнага гісторыка-культурнага клуба „Паходня". У 1989 г. вылучаўся кандыдатам у народныя дэпутаты СССР, супрацьстаяў камуністычнаму вылучэнцу, сакратару аблвыканкама Сямёнаву. У час выбарчай кампаніі на Ткачова прапагандыстамі было выліта шмат бруду. Неўзабаве гісторык выйшаў з КПСС і дзеію далей ужо толькі ў рэчышчы нацыянальна-адраджэнскага руху. Пасля пераезду ў Менск у 1989 г. удзельнічаў ва ўтварэнні „Мартыралога Беларусі", увахадзіў у Аргкамітэт БНФ „Адраджэньне", стаў намеснікам старшыні Сойму БНФ. Быў ініцыятарам аднаўлення ў Беларусі сацыял-дэмакратыі, з сакавіка 1991 г. — старшыня Цэнтральнай рады аднолёнай партыі БСДГ. Працаваў у рэдакцыі „Беларускай савецкай энцыклапедыі", спярша загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі, з 1992 г. — галоўным рэдактарам „Беларускай энцыклапедыі". Быў адным з ініцыятараў выданняў „Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі" і „Энцыклапедыя гісторыі Беларусі". Ужо хворым, у апошнія гады жыцця перавыдаў „Замкі і людзі", у суаўтарстве — кніжкі „Вялікае мастацтва артылерыі", „Старажытны Мсціслаў".

Памёр у Менску 31 кастрычніка 1992 г., пахаваны на Усходніх могілках. У Гародні на доме, дзе жыў Міхась Ткачоў, усталявана памятная шыльда. У Мсціславе шыльда ўсталявана на будынку, дзе ён вучыўся.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Акцыя рэанімацыя

У гэты раз школьная бібліятэка ў Крынках дапаможа адкрыць музычныя схільнасці школьнікаў і рэанімаваць несправядліва забытую музычную культуру рэгіёна.

Калі дзеткі ўпершыню пабачылі мяне з акардэонам, ім нешта пачало ўзгадвацца. Бачылі калісь такія інструменты ў хаце, але не чулі, каб нехта на іх іграў. Як яны там з'явіліся, мае дзеткі таксама не маглі адказаць. Інструментаў у асноўным з хат пазбавіліся, а калі дзе які застаўся, дык папсаваны. На акардэон дзеткі глядзяць як зачараваныя, асабліва калі на ім іграю. Зусім мяне гэта не дзівіць. Да нядаўна для мяне гэта таксама была чыстая магія і я не ўяўляла сабе як звычайны чалавек можа сыграць на такім інструменце хаця б нейкую простую мелодыю.

Жыццё паказала што „не святыя гаршкі лепяць", мала таго „іграць кожны можа, часам лепш, часам горш". Гэта паўтараю дзецям. Асноўнае хацець і не баяцца.

І вось на прошлым тыдні сустрэла мяне надта прыемная неспадзяванка. Прыйшоў да мяне ў бібліятэку спадар Павел Галка — адзін з настаўнікаў нашай школы, бацька Ярраміра і Славіка. Прынёс стары, запылены чорны акардэон маркі «Вельтмайстар». Ён, як кажа, не клавішнік. Найстарэйшы сын — трэцякласнік Ярамір вучыцца іграць на фартэпіяна. Калі надумаецца на акардэон, тады возьмуць яго назад.

— Табе тут больш спатрэбіцца, заўсёды будзе на чым падыграць, — сказаў мне Павел.

Акардэон у той жа дзень на плячах панесла я да хаты. Адпыласосіла кожны закутак, вымыла кожную кнопку, кожны клавіш, а на канец вычышчаны мех апырскала дарагой французскай парфумай — памяткай з часоў эміграцыі. Калі чакаеш, каб інструмент хацеў табе іграць, абавязкова пра яго добра задбаць, заапекавацца. У інструментаў, як і ў людзей, свая душа, сэрца. І праўда, пасля дзвюх гадзін дэталёвай касметыкі гармонік блішчаў быццам новенькі.

— Мама, — сказала мая дачка Таня, — спадар Павел, калі ўбачыць свой акардэон, напэўна не пазнае. А што будзе, калі забярэ яго назад?

Спадар Павел не думаў зразу яго забіраць, але і не думаў, што вучні будуць стаяць у чарзе, каб хаця дакрануцца да інструмента. Прыходзяць на кожным перапынку, малодшыя і старэйшыя, хлопцы і дзяўчаты; гэтыя апошнія часам не столькі за акардэонам як за хлопцам. Амаль не паб'юцца. Заглядаюць і пасля ўрокаў, іграюць, пакуль не зачыню дзвярэй бібліятэкі. Паколькі я вымушана ў міжчасе спраўляцца і з іншымі бібліятэчнымі абавязкамі, прашу адных дапамагаць вучыцца другім.

Найстарэйшы гарманіст спадар Дарошка з Ласінян успамінаў, што калісь ніхто не вучыў іграць. Ахвотныя ішлі да гарманіста з немалымі грашыма, той нешта паказаў або і не і вярталіся з пустымі кішэнямі і галовамі дахаты.

— Як навучыцца іграць? — пытаюць мяне вучні.

— Ігрaй сэрцам, а як добра папросіш у акардэона, ён сам табе сыграе, — адказваю.

Аня з пятага класа раней прасіла ў мяне дапамогі па англійскай граматыцы. Цяпер забылася пра граматыку, прыклеіўшыся да акардэона. А Пеця Таўдуль, яе аднакласнік, у адзін дзень вывучыў дзве нескладаныя мелодыі. Цяпер працуе над „Гуканнем вясны", што не даспадобы некаторым гімназістам

— Навошта каму гэтыя рускія песенькі, — кажуць з пагардай.

На шчасце такіх зусім няшмат.

Няраз прыходзяць цэлымі групамі і просяць зайграць ім нешта. Хто слухае, а хто танцуе. Сапраўдным гітам з'яўляецца „Лысы", які танцуюць са штораз большай хуткасцю. Перамагае той, хто найдаўжэй круціцца на бібліятэчным ходніку.

Ёсць шанц, што ў крынскія парогі вернуцца вясельныя маршы, а на забавах замест „Пшэз твэ очы зелёнэ, зелёнэ" будуць танцаваць менавіта „Лысага".

**Іаанна ЧАБАН**

# ЗАГЛЯНЕ СОНЦА?...

Выбраўся я ў падарожжа, чыгункай, з прыпынку Беласток-Стадыён, некалькі хвілін да адпраўлення цягніка ў бок Чаромхі. І пабачыў новае: побач пуцей ляжала пара доўгіх-доўгіх рэек. Зазірнуў я і на інфармацыйны стэнд, а там два расклады цягнікоў: цяперашні і будучы. Будучы ўступіць у сілу 12 сакавіка. Але там вельмі істотная навінка: на адрэзку між Беластокам і Бельскам будзе ўведзена часовая аўтобусная камунікацыя — заміж рэйкавых аўтобусаў. А гэта абазначае, што з вясной прыляціць у наша староннe і ластаўка грунтоўнага абнаўлення нашых тутэйшых чыгуначных пуцей. Бо ўжо крыху раней у інфармацыйнай нашай прасторы паявілася цвырканне пра гэтае абнаўленне. Звязанае з праектам Rail Baltica, які прадугледжвае грунтоўны рамонт пуцей паміж Беластокам і Малкіняй і часовае спыненне руху на тым адрэзку. А цягнікі з Беластока ў напрамку Варшавы маюць паехаць цераз Астралэнку і Седльцы. Адрэзак між Седльцамі і Чаромхай быў абноўлены бадай у пачатку 1980-х. А адрэзак між Беластокам і Чаромхай?.. Можа ў 1873 годзе, калі чыгунку клалі на новы грунт.



Бо апошнімі дзесяцігоддзямі многа атраманту і друкарскай фарбы было выліта на захады за абнаўленне гэтага апошняга адрэзка; і ўсё безвынікова. І калі б не новая палітычная раздача ў нашым староннi, якая перакрыла гістарычнае спалучэнне між Варшавай і Вільняй цераз Гародню, магчыма, што не было б неабходнасці ў новай Балтыйскай чыгунцы. І ў новых пуцяводных галаваломках...

Зараз цягнік з Беластока ў Бельск цягнецца пяцьдзясят мінут. Па спарахнелых шпалах. А па новай дарозе можа павінна быць значна хутчэй. І можа пасажыры перасядуцца на цягнікі. І можа варта будзе запусціць між Бельскам і Беластокам своеасаблівы чыгуначны чаўнок, такі *rail shuttle*, пяць-шэсць разоў у суткі. Як з вялікіх метраполій у навакольныя гарады. Сёння гэта фантазія, але ўсяляк бывае... Можа сапраўды загляне праменьчык прагрэсу і ў нашы ваконцы.

А пакуль што, трэба пры месячыку. Спытаў я кандуктара, ці той часовы аўтобус будзе заязджаць і на прамежныя прыпынкі. Павінен, адказаў ён мне. І, магчыма, што будзе заязджаць, мо толькі на некаторыя. Бо з Беластока будзе адпраўляцца сорак мінут раней чым дагэтуль...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# 12.03 — 18.03

**(22.03. — 20.04.)** Нудна не будзе. Будзеш мець нагоды для таго, каб прадставіць свае думкі і ідэі. Выявяцца твая краса і харызма. Самотныя Бараны камусь вельмі спадабаюцца. Не пазбудзься са сваёй блізкай гронкі вельмі спрыяльнага табе чалавека. Схочаш ажыццявіць новыя задумы, нават не пытаючы пра згоду, што можа кончыцца па-рознаму; можаш крыху адпусціць. Не рызыкуй.

**(21.04. — 21.05.)** 11-15.03. дзейнічай энергічна, бярыся за афармленне важных спраў, каб пазбыцца «хвастоў». Будзеш мець энергію для вырашэння важных жыццёвых выклікаў. Не вер ва ўсё пра што пачуеш. З 13.03. (аж да 31.03.) нечаканыя аварыі, паломы і звязаныя з гэтым выдаткі. Пі многа вады.

**(22.05. — 22.06.)** 11-13.03. будзеш launched ператомлены, не бяры на сябе зашмат, адпачывай. Горшае засяроджанне можа стаць прычынай кардынальнай памылкі. Пасля энергічна возьмешся за паляпшэнне свайго фінансавага становішча. Праанализуй свой падыход да свайго здароўя і жыцця. Змяні стыль жыцця, а нямогласці мінуць. 17-19.03. убачыш святло ў тунелі. 11-13.03. твае просьбы могуць быць не выслуханы.

**(23.06. — 23.07.)** Акалічнасці маглі б быць лепшыя, але не будзе блага. На ўсякі выпадак нічога не прыспешвай. 12.03. можаш непатрэбна выдаць шмат грошай. У пачуццях даруй і пачні нанова. Дома і з сябрамі аддай блізкім свой час, а не пакупкі. Любуйся добрым днём і дробнымі прыемнасцямі.

**(24.07. — 23.08.)** Магчымыя непаладкі і неспакой. Не пакідай, аднак, сваіх планаў. Венера дае сігнал да гульняў і новага кахання. 12-14.03. не страць чагосьці, на чым табе вельмі залежыць. З 13.03. паявяцца новыя рашэнні і шматабяцальныя кантакты. Рашучых дзеянняў патрабуе хаос у тваіх дакументах і на пісьмовым стале. Нейкі шанц можа падабраць табе хтосьці, але твой прыйдзе пасля (28.03.). Еж менш. Адстаў ласункі. З 16.03. (да 20.03.) можа пагоршыцца твая фізічная форма і настрой

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш мець новыя сілы, з якімі пераможаш перашкоды. 11-13.03. можаш пачуць невясёлую вестку. Інспіруючыя размовы. Але калі існуюць тлеючыя канфлікты, могуць цяпер успыхнуць. Не забывай пра адпачынак, займіся ўласным здароўем — яно важнейшае чым кар'ера і набыткі. У пачуццях трымайся таго, што маеш. Самотныя Дзевы з 17.03. (да 19.03.) могуць пазнаёміцца з кімсьці, з кім будуць шчаслівыя.

**(24.09. — 23.10.)** Супрацоўніцтва, наладжванне знаёмстваў. Сітуацыя можа ўскладніцца, але канчаткова дасі сабе рады. Рэалізуй свае задумы, але не коштам непраспаных начэй. Праводзь час з тымі каго любіш. Будзеш мець шчасце да грошай, якія самі прыйдуць, напрыклад, як выйгрыш у латарэі.

**(24.10. — 22.11.)** Не бойся скочыць на глыбокую ваду, справішся нават з найцяжэйшымі выклікамі. Зважай на канкурэнцыю, якая будзе дзейнічаць спадцішка і лагодна, таксама ў пары. Выкарыстай моц добрых слоў. Свае ззяючыя задумы прадставіш на шырэйшым форуме, паказваючы свой прафесіяналізм. Пераадолееш сваю ляноту (гімнастыка!). 11-13.03. нічога не рабі пад націскам часу.

**(23.11. — 22.12.)** Нішто не папсуе твайго добрага настрою, а ўсмешка не прападзе з твайго твару. Задбаеш добра пра сваё здароўе. Будуць поспехі і карысныя змены. Чакаюць вельмі цікавыя знаёмствы. Магчымае далёкае падарожжа. Чэрпай з жыцця поўнымі жменямі. На рабоце рабі ўсё па чарзе, працуй засяроджана і не дай расслабляцца супрацоўнікам. Калі марыш пра павышэнне, прадстаў кіраўніку спісак сваіх дасягненняў.

**(23.12. — 20.01.)** Старайся адрабіць страчаны час, часцей сустракайся з любімымі людзьмі. 11-13.03. будзеш мець уражанне, што стаіш на месцы. Маеш нагоды кінуць кепскія звычкі і нятрапныя меркаванні. Шырокія кантакты, шляхетныя дзеянні.

**(21.01. — 19.02.)** Зоркі памогуць табе ў рэалізацыі тваіх намераў, але і ты таксама пастарайся. Магчымасці многа зарабіць, але і з прыемнасцю выдаць грошы. Змены і тэсціраванне новых рашэнняў. Фартуна пры табе; Вадалей з другой дэкады можа стаць сам сваім шэфам. Варушыся, правер ці не маеш алергіі. 17-19.03. можа табе ўдацца зацікавіць кагосьці сваёй прапановай.

**(20.02. — 21.03.)** Чакае цябе многа працы, але ты будзеш рады, добра ўсё сарганізуеш. Рыба з другой дэкады можа з'ездзіць на далёкае абучэнне. Высокая форма і настойлівасць ды ўпэўненасць у здабыванні таго, што табе трэба. 12-14.03. вашы чаканні ў пары могуць размінуцца; гавары пра свае планы і не рабі сюрпрызаў. Сустрэчы на шырэйшым сямейным форуме; не адмаўляйся ад імпрэз. Пі зялёную гарбату.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. прыстасаванне з пласцінак для абмахвання ў духату = 5 _ 20 _ 21 _ 35 _;
2. паслядоўны рад гукаў у... Багамах = 16 _ 17 _ 33 _ 32 _;
3. цестападобнае бясформеннае рэчыва = 27 _ 26 _ 25 _ 24 _;
4. накладка на твар, напрыклад, супрацьгазавая = 12 _ 2 _ 1 _ 3 _ 4 _;
5. халодная зброя рыцара = 18 _ 37 _ 23 _;
6. скандынаўская легенда = 10 _ 9 _ 34 _ 11 _;
7. высушаная трава = 13 _ 15 _ 14 _ 22 _;
8. сюжэт, які сніцца = 28 _ 29 _ 30 _;
9. дрэва, якое павінна быць у гербе Цісоўкі = 31 _ 6 _ 19 _;
10. банкаўскі дакумент... чэкіста? = 8 _ 36 _ 7 _;

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 |
| | | | | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | | 34 | 35 | 36 | 37 |

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Гавань, дранік, Данія, рэшата, прорва, экзарх.

Рашэнне: **Шэрань на дрэвах — на мароз**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.


Ніва — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


Рыбакі на возеры Нобель

# У палескай глыбінцы (76)

Ужыцці я выпускаў толькі белых галубоў, — кажа пра сябе Леанід Хведаравіч, — усё стараўся, каб рабіць добра. Не для славы, пачоту — во, паглядзіце, які я! А так, звычайна, па-людску. Хочаце канкрэты, дык калі ласка: выратаваў трох тапельцаў. Адну жанчынку ледзь вывалак з вады. Тапельніца важыла за сто пяцьдзясят кілаграмаў.

Тады ў аблічы смерці, калі ён дабыў жанчыну на бераг і вярнуў дыханне, не думаў пра гонар і славу, хутчэй спалохаўся за сябе:

— Гляджу, а яна здаравенная як кабыла, грудзі як вёдры. Яна ж магла пацягнуць на дно, прыдушыць у час рэанімацыі.

Апошні, хоць і трагічны выпадак у нашай кампаніі падвялі бадзёрым тостам: *за шчасце!* Леанід Хведаравіч патлумачыў, што для яго зараз значыць шчасце. Якраз Коля данёс на стол смажаныя духмяныя каўбасы хатняй работы, ажно слінка пацякла.

— Шчасце гэта тады, калі твае госці дапіваюць да дна! — апошняя выснова была накіравана ў мой бок.

На Палессі абавязкова трэба выпіць тры першыя чаркі да дна. Недапіты кілішак, прамаўляе як недахоп пашаны для гаспадара. Найбольш крыўдна, калі нехта пакіне пітво ў трэцяй чарцы, якую падымаюць *за любоў!* Тады ўсе перакідваюцца зрокам і маўчаць. Бо ж вядома, што трэцяй чаркі не дапіваюць толькі жанчыны лёгкіх паводзін.

Каб прыгожы пол адчуваў сябе годна і свабодна з неаднназначнымі тостамі ў застоллі, для іх ставяць мініяцюрныя чаркі і наліваюць па капельцы.

— А яны і так першыя пачынаюць свае хаханькі. І гэта правільна, па-нашаму.

Калі ў кампаніі анекдоты, здаровы рогат, тады ўсе шчаслівы, — выводзіць сваю пакручастую думку спадар Леанід. — А калі ўсе шчаслівы, то і я шчаслівы. Ну, давайце *за любоў!*

* * *

Усю дарогу людзі частавалі мяне смачнай ежай, толькі не было зручнага моманту, каб запісаць іх рэцэпты. Але як кажуць — дурны мае шчасце! У канцы пашанцавала запісаць некалькі знакавых страў ад Леаніда Хведаравіча. У яго чуткіх руках любы кавалак мяса, мяняўся ў кулінарны шэдэўр. Ён умеў нарабіць такога смаку сваімі аповедамі, што нават ардынарны бурак здаваўся вытанчанай стравай. Падобнае захапленне выклікала свіное сала. Гаспадар адкроіў белы скрылёк сальца, з хрумсткай, духмянай шкуркай.

— Галоўнае, каб добра асмаліць вепрука, — дадаў спадар Леанід.

Дзеля гэтага патрэбны ільняны мяшок, ён выконвае падобную ролю як салома. Спачатку свінчо трэба агарнуць ільняным мяшком, дакладна асмаліць газам, так каб ільняныя валокны спаліліся разам з поўсцю. Усё разам прашараваць, паскрэбці, пачысціць. Пасля яшчэ раз асмаліць з ільняным мяшком, пачысціць, памыць, паскрэбці. Тады шкурка атрымаецца хрумсткай, яна набярэ празрысты бурштынавы колер і духмяны пах. Пасоленае сала найлепш трымаць у дубовых кадушках. У такой пасудзе яно будзе захоўваць свежасць цэлы год. Калі няма пад рукой кадушкі, тады сала складаюць у трохлітровы слоік. Менавіта, у такіх слаях спадар Кустынец гатовіць мяса на шашлыкі а-ля маршал Жукаў.

Мяса, пакуль нанізаць на жалезныя шпажкі і сасмажыць, раней неабходна марынаваць. На шашлыкі найбольш падыходзіць свежая каркавіна. Яе трэба парэзаць на тоўстыя кускі, пасаліць (тут таксама дзейнічае прынцып: на 100 кг мяса — 2,5 кг солі), дадаць чорны перац і акрапіць алкаголем. Шчыльна пакласці ў трохлітровы слой, заліць усё алкаголем, закрыць і адставіць на тры суткі. Шашлыкі жараць на шмат спосабаў, мяса перапатыкаюць цыбуляй, зялёным ды чырвоным перцам, цукініяй, італьянскім кропам, грыбамі, лісцем хрэну — усё залежыць ад густу.

Леанід Кустынец дадае толькі тоўстыя пялёсткі цыбулі, тады мяса стрымлівае свой натуральны пахавы букет. Увесь алкаголь выпароўвае на агні, ён не мяняе смаку і паху стравы. Мяняецца адно структура мяса, дзякуючы алкаголю, смажаны шашлык становіцца далікатным, мяккім і сакавітым. Праўда, канчатковы вынік заўсёды залежыць ад здольнасцей і фантазіі кухара. Спадар Леанід чалавек вялікага фармату. Калі госці хваляць яго шашлыкі, ён заўсёды ўспамінае свайго настаўніка Саколіка, таго самага, які служыў асабістым кухарам у маршала Жукава. Культавая страва нарадзілася пад абстрэлам вайны, калі пад рукой не было патрэбных прыправаў і бальзамаў, толькі адна самагонка. Хутка аказалася, што яна найбольш падыходзіць для марынавання шашлыкоў.

* * *

Пасля трох афіцыйных тостаў уся кампанія перайшла гасцяваць у сад, да альтанкі пад страхой з трыснягу. У паветры пахла сферментаванымі яблыкамі і квітнеючым кропам. Ад берагу возера, што распасціралася за плотам, даносіўся плёск шчупакоў і сомаў. Час ад часу альтанку налятаў назойлівы шэршань, тады Коля браў у рукі мятлу і адганяў авадня. На небе зіхацелі зоркі, спявалі цвыркуны.

Спадар Леанід, пакуль стаў уласнікам дачы, пераэжыў усё на свеце. Нарадзіўся 16 жніўня 1944 года. Яго бацька загінуў на вайне некалькі месяцаў да нараджэння. Таму ў сяле празвалі Леаніда выродкам. Ад наймалодшых гадоў цяжка працаваў. Дапамагаў маці палоць буракі ў калгасе, у дзесяць гадоў выганяў разам з дарослымі коней на начны папас. У пасляваенныя гады ўсе цяжка гаравалі, цярпелі нястачы.

— А мы з мамай былі апошнія ў вёсцы, — успамінае Леанід Хведаравіч, — хоць цяжка гаравалі, нічога не мелі, галадалі. Аднойчы дарэзалі карову, аднак не паспелі прадаць мяса. Уначы прыйшла банда з лесу і ўсё забрала. Як на злосць захварэла маці, пацякла страха ў хаце.

Пасля сямі класаў Леанід Кустынец здабыў вадзіцельскія правы і стаў дараблаць шафёрам у калгасе. Хутка здабыў прызнанне, начальства прыкмеціла яго спрыт і акуратнасць. У 60-ыя гады паехаў у Германію, каб працаваць вайсковым шафёрам. За першыя грошы купіў сукенку маці. Кожны раз, калі вяртаўся з-за мяжы, прывозіў ёй новае адзенне, калготкі, туфлікі. Зароблены грошы прызначыў на пабудову новай хаты для маці:

— Тады людзі пабачылі, зразумелі, які я хлапчына, — успамінае са слязой спадар Леанід, — яны дапамаглі мне стаць на ногі.

Першы прыкмеціў яго дырэктар Каліш Ігнатавіч. Ён запрасіў працаваць на


Леанід Кустынец

ровенскі мясакамбінат. Якраз там лёс звёў яго з легендарным Саколікам, які працаваў тэхнолагам па вытворчасці каўбас. Ён стаў для Леаніда кіраўніком, прыяцелем і ментарам. Пасля, калі настаўнік сышоў на пенсію ды пераехаў жыць у Львоў, ён сам шмат гадоў кіраваў каўбасным аддзелам. На мясакамбінаце перапрацаваў усё сваё прафесійнае жыццё, сорак гадоў. Нажыў добрую сям'ю, дзяцей і ўнукаў. Зараз усе ўнукі — студэнты. Гэта для іх прыдбаў дачу над берагам чароўнага возера Нобель.

* * *

Было ўжо далёка за поўнач, калі на стол у альтанцы трапілі гарачы бігас і марынаваныя памідоры. Леанід Хведаравіч пашкадаваў, што пад рукой няма *сурпы*, якую калісь згатаваў для начальства з КГБ. Вярхушка прыехала з Кіева адпачыць на прыродзе. Праз гэта яго кухарская слава дайшла да Кіева. Пасля яго запрашалі рыхтаваць усе банкеты і ўгашчэнні па раёнах.

Хоць страва простая ў гатаванні, могуць з'явіцца праблемы з купляй прадуктаў.

На яду для дзесяці асоб патрэбныя цялячая грудзінка (1 кілаграм), 1 кг свіных рэбраў, валовае сэрца, 2 свіныя нагі і вуха, валовы або свіны язык. Каб атрымалася поліўка, мяса трэба гатаваць тры гадзіны. Пасля дзвюх гадзін у расол дабавіць дзесяць цыбулін, тры пятрушкі, сельдэрэй і цэлыя картоплі. Пасля трох гадзін гатавання пасаліць, прыправіць чорным перцам. Пасля дастаць сэрца, язык і вушы ды пакроіць у тоненькія скрылікі і кубікі. Рабрынку, ногі і цяляціну падзяліць на порцыі. Усё заліць расолам і прыправіць зялёнай пятрушкай.

Сваю сурпу Леанід гатаваў у хаце і давозіў на месца ў шчыльнай тэрмічнай пасудзе. Заўсёды пільнаваў, каб разлітая ў пасуду страва дымела. Сурпу найлепш падаваць гасцям калі даюць (па сто грам) пад варатнік:

— То тыя чыноўнікі ламаталі лыжкамі і мармыталі ад роскашы: о-то-то-то! О-тото Хведаравіч!

Леанід Кустынец ведаў як падбіць смакавы экстаз. Ён прызываў прозвішча легендарнага настаўніка і тады яго сурпа і шашлыкі яшчэ больш смакавалі.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960